www.svaboda.com
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

НАША СВАБОДА

№53 (280) 14 чэрвеня 2002 пятніца кошт свабодны



# Хакей на Няве

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

***Па заканчэнні двухдзённага візіту Аляксандра Лукашэнкі на радзіму Уладзіміра Пуціна – у Санкт-Пецярбург – ён змог пахваліцца ажно 10-гадзіннымі перамовамі з расійскім калегам у вузкім коле «аднадумцаў» ды чарговай хакейнай перамогай. Іншых відочных поспехаў не дасягнута.***



**Пакуль Аляксандр Лукашэнка гуляў у хакей, тры еўрапейскія дзяржавы канчаткова пахавалі газавы транзіт у Еўропу праз Беларусь.**

### Фальстарт?

Кіраўнік дзяржавы прыляцеў у «паўночную сталіцу Расіі» ўдзень 10 чэрвеня. Ужо ў аэрапорце ён заявіў, што марыць пра тое, каб гандляваць выключна з Масквой і Санкт-Пецярбургам, бо, мауляў, Мінск аб'яднаны з імі «агульнай крывёй, гісторыяй і лёсам падчас Вялікай Айчыннай вайны». «Калі б атрымалася, як у савецкія часы, супрацоўнічаць у гандлёва-эканамічным плане толькі з імі – гэта была б мая самая вялікая мара», – цытуюць Аляксандра Лукашэнку расійскія сродкі масавай інфармацыі.

Стоячы ля трапу самалёта, ён даводзіў прысутным сваё бачанне новага Саюзу: «Мы павінны зыходзіць з прынцыпу раўнапраўнага саюзу паміж Беларуссю і Расіяй. Іншы проста не патрэбны, бо іншага не будзе, а калі б нават і быў, то ніхто ў гэты саюз больш бы не ўступаў».

Уладзімір Пуцін у гэты дзень займаўся больш важнымі справамі – дамаўляўся з лідэрамі Германіі і Украіны аб супрацоўніцтве ў газавай галіне, каб забяспечыць бесперапынныя пастаўкі «блакітнага паліва» ў краіны Еўропы. Таму ягонаму заходняму саюзніку давялося скіравацца ў гатэль «Асторыя», а адтуль – на свой улюбёны хакей.

Выступаючы ў якасці «ветэрана беларускага хакею» пад нумарам «1», кіраўнік дзяржавы патрапіў закінуць у вароты зборнай ветэранаў хакею Пецярбургу адну шайбу і зрабіць тры выніковыя перадачы. Урэшце, паводле *РИА «Новости»*, беларусы перамаглі з лікам 9:4.

Заканчэнне на стар.3

# Турэцкі вопыт



Да канца гэтага году на сцэне Вялікага тэатру оперы плануецца ўсталяваць экран, на якім падчас выканання оперных партыяў замежных кампазітараў можна будзе бачыць рускі (а чаму не беларускі?) варыянт тэксту. Пра гэта 12 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў мастацкі кіраўнік беларускай оперы Сяргей Картэс. Ён зазначыў, што экран коштам больш за 6 тысяч даляраў дапаможа задаволіць «прэтэнзіі гледачоў, якія хочуць ведаць, пра што спяваецца ў оперы». Такое асучасненне оперы «павінна прыцягнуць большую цікавасць да гэтага віду мастацтва». Напачатку плануецца падрыхтаваць пераклад сямі найпапулярнейшых сярод гледачоў опер.

ГОСЦЬ

## *Ельцын прыедзе праз тыдзень*

Першы прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын пацвердзіў намер наведаць Беларусь у трэцяй дэкадзе чэрвеня. 21 чэрвеня ён накіруецца ў Мінск, а 22-га – у Брэст, каб ускласці вянок да помніка абаронцам Брэсцкай крэпасці.

Запрашэнне наведаць Беларусь першы прэзідэнт Расіі атрымаў 13 траўня ад прэзідэнта Беларусі.

ПОМНІК

## *Сертыфікат для Мірскага замку*

**9 ліпеня замкавы комплекс, які знаходзіцца ў пасёлку Мір Карэліцкага раёну Гродзенскай вобласці, атрымае пасведчанне *UNESCO* аб уключэнні гэтага помніка архітэктуры XVI – пачатку XX стагоддзя ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны. Апрача Мірскага замку, Беларусь у гэтым спісе прадстаўленая толькі Белавежскай пушчай.**

# Апісалі маёмасць Саюзу пісьменнікаў

***12 чэрвеня судовы выканаўца суду Партызанскага раёну Мінску апісала маёмасць Саюзу беларускіх пісьменнікаў (СБП).***

Гэта стала вынікам рашэння суду Партызанскага раёну Мінску, які задаволіў іск былога бухгалтара СБП аб спагнанні зарплаты з творчага аб'яднання. Кіраўніцтва Саюзу звярнулася да старшыні Мінскага гарадскога суду з просьбай адмяніць гэтае рашэнне, бо адказчыкам па дадзеным іску павінна выступаць Міністэрства фінансаў. З 17 ліпеня мінулага году ўсе штатныя супрацоўнікі СБП пазбаўленыя заробку, бо Міністэрства фінансаў не выдзяляе запланаваныя на 2001 год бюджэтныя асігнаванні на зарплату. На гэты год творчаму аб'яднанню наогул не запланаваныя сродкі з бюджэту. Але вынікам судовага рашэння стаў арышт рахунку СБП. Не так даўно, пасля рашэння суду, старшыня Саюзу пісьменнікаў Вольга Іпатава заявіла, што мае намер падаць іск па спагнанні з Міністэрства фінансаў належнай ёй сумы заработнай платы за мінулы год, стварыўшы тым самым прэцэдэнт.

**Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ**

Тое, што сённяшняя дзяржава не бачыць розніцы паміж Саюзам пісьменнікаў і грамадскім аб'яднаннем рыбаловаў, вядома ўсім: адны пішуць, другія ловяць – справа прыватная. Таму было дзіўна, чаму СБП чакае фінансавай дапамогі ад цяперашняй улады. Але не менш дзіўна, чаму пісьменнікі ў такой надзвычайнай сітуацыі, абцяжаранай да таго ж канфліктам унутраным – паміж Літфондам і СБП, – не праводзяць з'езду. Спасылка на адсутнасць грошай не вытрымлівае крытыкі – болей за тры чвэрці чальцоў СБП жывуць у Мінску, і ім не трэба аплачваць праезд. Урэшце, калі кіраўніцтва Саюзу не мае грошай на аплату арэнды, то трэба было пашукаць сярод ахвярадаўцаў, якія знайшлі 300 даляраў, каб аплаціць залю. У найгоршым выпадку з'езд можна правесці пад адкрытым небам – для бедных пісьменнікаў нічога страшнага тут няма. Можа, народ хоць звярнуў бы ўвагу на становішча літаратараў і літаратуры. Але зразумелай прычыны пісьменніцкай пасіўнасці і нежадання Рады СБП праводзіць з'езд ніхто не называе, і таму чакаць ад грамадства іншай рэакцыі, чым абыякавасць, было б з боку Саюзу пісьменнікаў рамантычнай наіўнасцю.

# Шыць абы шыць

Анатоль ЛІПСКІ

***3 панядзелка не працуюць рабочыя вытворчых цэхаў і некаторых службаў Гомельскага швейнага акцыянернага таварыства «Камінтэрн». Іх адправілі ў вымушаны тыднёвы адпачынак.***

Наогул «Камінтэрн» апошнім часам адрэзаны ад знешняга свету. За няўплату адключана большасць тэлефонаў, у тым ліку і ў генеральнага дырэктара Вячаслава Лягчыліна.

Галоўны інжынер Валянціна Заранік адмаўляецца каментаваць сітуацыю на «Камінтэрне» і заяўляе, што прыпыненне працы вытворчых цэхаў і службаў звязана з надыходам летняй пары адпачынкаў.

Рабочыя па-іншаму глядзяць на сітуацыю.

– Заробак даюць несвоечасова, праца нестабільная, – сказала, у прыватнасці, адна з рабочых «Камінтэрну», папрасіўшы не называць яе імя. – У адпачынак, я думаю, пайшлі таму, што працы няма. У асноўным мы выконваем заказы для фірмаў з іхняй жа тканіны, а саваёй працы ў нас няшмат.

Як удалося высветліць, за пяць месяцаў гэтага году «Камінтэрн» пашыў толькі 58 працэнтаў мужчынскіх гарнітураў у параўнанні з адпаведным леташнім перыядам.

Ад паслуг гомельскіх швейнікаў адмовілася англійская фірма «*BMB*». Яе заказы некалькі гадоў запар фармавалі прыкладна палову вытворчай праграмы прадпрыемства. У ліку прычын адмовы некаторыя спецыялісты называюць павышэнне заробку да эквіваленту 100 даляраў, на чым настойвалі напярэдадні леташняй прэзідэнцкай кампаніі ўладныя структуры. Разам з дарагімі расійскімі энерганосьбітамі гэта падвышала кошт швейных вырабаў і адштурхоўвала замежных партнёраў.

Беларускі гандаль хоць і бярэ гарнітуры «Камінтэрну», але своечасова не разлічваецца. Асабліва гэта датычыць спажывецкай кааперацыі краіны.

Заканчэнне на стар.3

## Нерэнтабельныя выцвярэзнікі

Цяпер многія жыхары Магілёўшчыны могуць ужываць алкагольныя напоі, не баючыся патрапіць нападпітку ў выцвярэзнік. Рэч у тым, што ў вобласці сёлета колькасць цверазілавак скарацілася аж утрая – з 12 да 4. Асцярожнымі трэба быць аматарам гарэлкі ў Магілёве, Бабруйску, Асіповічах і Касцюковічах. Менавіта ў гэтых гарадах яшчэ працуюць установы, куды забіраюць дужа п'яных грамадзян.

## Жывёла гіне на дарозе

Лось, які неспадзявана выбег на аўтатрасу Мінск–Масква на 434 кіламетры ля вёскі Вераскі Барысаўскага раёну, быў забіты 11 чэрвеня легкавым аўтамабілем «Аўдзі». Вадзіцель, грамадзянін Расіі, атрымаў шматлікія траўмы і шпіталізаваны. У той жа дзень пад лакаматыў пасажырскага цягніка «Калінінград–Масква» патрапілі 8 кароў, якія выбеглі на чыгуначнае палатно паміж пераездамі Насілава і Асанава Маладзечанскага раёну.

КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»
**1810**

КАТАСТРОФА

# Экалагічная драма ў Брэсце

**На грані сацыяльнага выбуху апынуўся 11 чэрвеня памежны горад Беларусі. З-за аварыі ўвечары папярэдняга дня на каналізацыйна-помпавай станцыі (КПС-5) была спынена падача вады і адключана прымусовая каналізацыя ў 400-х жылых дамах з насельніцтвам больш як 100 тысячаў чалавек.**

Гарачыня на вуліцы і ўзмацненне паўзучага смуроду на паверхах жылля прымушалі людзей у паніцы шукаць выратавальную вільгаць. Але на берагах Мухаўца ўжо шыхтаваліся міліцыянты для аховы русла, у якое адпампоўвалі брудныя каналізацыйныя сцёкі з аварыйнага аб'екта. Шумная таўкатня ўтварылася ля водаразборных калонак, чэргі запрудзілі крамы. Брэст імгненна раскупіў 7 тысячаў 5-літровых бутляў пітной вады «Санта». Нават калі на вуліцах з'явіліся аўтамабілі-вадавозы, усё роўна вада здабывалася цяжка. Натоўп гучна спрачаўся і пераходзіў на крыкі. Праклiналі прэзідэнта, ягоную ўладу, уласнае гаротнае жыццё...


Аварыя можа адбіцца і на водазабеспячэнні Варшавы

Экстранная мабілізацыя выратавальных сілаў і сродкаў у рэжыме надзвычайнай сітуацыі дазволіла перакрыць усе магчымыя ачагі для ўспышкі бактэрыяльных атручэнняў. Спробы вадалазаў выявіць і адрамантаваць пашкоджанні перапоўненага рэзервуару КПС на 10-метровай глыбіні поспеху не мелі. Давялося перакрыць засланкі на ўваходзе і адпампаваць тысячы кубаметраў каналізацыйных адкідаў у раку Мухавец. Калі ж адкрылася дно, то стала бачна, што праваўся напорны трубапровад і ў ім утварылася дзірка дыяметрам паўметра. Перад аварыяй тут дэмантавалі адну з пяці электрапомпаў 1984 году выпуску, чым, магчыма, справакавалі лакальнае разбурэнне зношаных трубаў.

Для расследавання брэсцкай аварыі створана адмысловая камісія. Ёй трэба будзе адказаць не толькі на пытанні аб прычынах унутранай экалагічнай драмы, але і кваліфікаваць пагрозу суседнім акваторыям. Урэшце, у Брэсце адбылася пазаштатная сітуацыя, страх ад якой адчувае найперш суседка Польшча. Варшава спажывае ваду з адкрытай Віслы, якая сілкуецца таксама цячэннем Буга. А ў ім зараз раствараюцца бактэрыяльныя камякі з забруджанага Мухаўца...

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

## «Дыверсійны» склад

Вялікі арсенал сучаснай зброі выкрыты ў закінутым збудаванні па вуліцы Чыжэўскіх у Мінску. У адмысловым тайніку былі прыхаваныя гранатамёт РПГ-22; вінтоўка «Вінчэстэр», калібр 7,62 мм; абрэз паляўнічай стрэльбы 12 калібру; гранаты РГД-5 і РГ-42; 6 імітацыйных гранат ІМ-120М; 8 шашак «Жырафа». Каму належыць склад, цяпер высвятляюць КДБ і МУС.

## Алкагольны крымінал

Дэпартамент фінансавых расследаванняў па Віцебскай вобласці ўзбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да галоўнай бухгалтаркі рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Віцебскі лікёра-гарэлачны завод». У выніку неналежнага выканання затрыманай сваіх службовых абавязкаў у бюджэт рэспублікі не паступіла каля 40 мільёнаў рублёў. Супраць галоўнай бухгалтаркі ўзбуджана крымінальная справа.

МАХЛЯРСТВА

# 600 000 рублёў міласціны ад праваслаўных

**знойдзены пры вобшуку ў прайдзісветак у расах**

Элементарная цікаўнасць участковага міліцыянта да наяўнасці дакументаў у аднаго нібыта царкоўнай паслушніцы, якая стаяла з працягнутай рукой на цэнтральнай вуліцы Гомеля, паклала канец даволі працяглай афёры залётных жабрачак у горадзе над Сожам. Пераправерка пасля гэтага выпадку іншых інакіняў выкрыла на тэрыторыі вобласці яшчэ адну групу махлярак.

– Нашы супрацоўнікі затрымалі 48-гадовую грамадзянку Малдовы, – паведаміў супрацоўнік аддзялення інфармацыі УУС Гомельскага аблвыканкаму Ігар Грышкевіч. – Непрацуючая жанчына зняла ў горадзе кватэру і атабарылася з шасцю дзяўчатамі, тры з якіх былі непаўналетнімі. Гэтыя няпрошаныя госці мелі на мэце зарабіць у Беларусі на міласціне. І яны амаль не прагадалі.

Матэрыялы міліцэйскага следства да драбніцаў уваскрашаюць вулічную службу "паслушніцаў" і памеры атрыманых імі грашовых ахвяраванняў на неіснуючыя цэрквы ў міфічных прыходах. Праслаўныя беларусы аказаліся шчадрэйшыя за ўкраінцаў і румынаў, з чыёй міласэрнасцю «ліпавыя» манашкі таксама эксперыментавалі. Пры вобшуку на кватэры былі

Выпадкі махлярства пад выглядам збору царкоўных ахвяраванняў, якія адзначаюцца час ад часу, выклікаюць заклапочанасць Беларускай праваслаўнай царквы. Як паведамілі ў прэс-службе Беларускага экзархату, збор ахвяраванняў на патрэбы праваслаўных прыходаў ці манастыроў можа ажыццяўляцца толькі з асабістага дабраслаўлення правячага архірэя той епархіі, на тэрыторыі якой збор праводзіцца. Кожны чалавек, які збірае ахвяраванні, павінен мець дакумент з подпісам і пячаткаю той асобы, прыхода ці манастыра, якія ўпаўнаважылі яго на гэтую дзейнасць.

канфіскаваныя 600 тысячаў беларускіх рублёў, што пацвярджае прызнанні вулічных жабрачак у расах пра штодзённыя зборы 30–40 і нават 50 тысячаў рублёў.

Здабытыя міліцэйскім следствам матэрыялы дазваляюць ставіць пытанне ў пракуратуры аб узбуджэнні крымінальнай справы па фактах уцягнення непаўналетніх у антыграмадскія паводзіны. Прайдзісветцы ў расе пагражае арышт на 6 месяцаў альбо пазбаўленне волі да 3-х гадоў. Усіх астатніх затрыманых дэпартуюць за межы Беларусі.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Дапамаглі адшукаць дзяцей

Пра аўтарытэт Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Праваабаронцы цэнтр «Вясна» сведчаць станоўчыя вынікі прававой дапамогі былой арыштантцы Гомельскай спецустановы УЖ-15/4.

Марыя да 1991 году жыла з бацькамі ў Мінску. Там згубіла пашпарт і была асуджаная за крадзеж на 3,5 гады. Пасля адбыцця пакарання бацькі адмовілі ёй у прапісцы, і Марыя прыехала ў Брэст да бабулі. Жыла без прапіскі, а таму не магла атрымаць пашпарт. У 1998 годзе Марыя нарадзіла сына. Без пашпарту зарэгістраваць яго не змагла. Такая ж гісторыя паўтарылася пры нараджэнні дачкі ў 1999 годзе. У 2001 годзе Марыя апынулася на вуліцы. Неўзабаве Марыю арыштавалі за крадзеж і асудзілі на 7 месяцаў пазбаўлення волі. Звесткі пра сваіх дзяцей яна ўтаіла. Яны былі афармленыя як падкідкі і знаходзіліся ў розных дзіцячых прытулках.

Пасля таго, як Марыя звярнулася ў ПЦ «Вясна», ёй дапамаглі атрымаць пасведчанне аб нараджэнні, зрабіць па ім пашпарт, аформіць прапіску, працаўладкавацца. Маці вярнулі дзяцей, у яе наладжваюцца адносіны са сваякамі.

**Уладзімір ВЯЛІЧКІН**

ТАЯМНІЦЫ

# Нашэсце «сіпуноў»

Сведкамі незвычайнай прыроднай з'явы сталі жыхары пасёлішча Касцюкоўка на Гомельшчыне – тут завяліся совы. Жыхарка дома № 8 па вул. Першамайскай на адным дрэве налічыла каля 18 гэтых рэдкіх птушак. Вельмі шмат іх у тутэйшым старым парку.

Асаблівасць гэтых птушак – рэзкія пранізлівыя гукі, якія нагадваюць рыпенне зламанага дрэва, таму людзі іх называюць «сіпунамі». Дарэчы, са з'яўленнем соваў рэзка зменшылася колькасць іншых птушак, бо совы – вядомыя драпежнікі. Памерам гэтая рэдкая птушка як кот, мае круглыя жоўтыя вочы, расплюшчаныя і ўдзень і ўначы. Калі ўдзень яны амаль нічога не бачаць, то ў начной цемры ім няма роўных.



Мясцовыя жыхары лічаць, што совы мігруюць з чарнобыльскай зоны, якая пачынаецца за некалькі кіламетраў ад Касцюкоўкі.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

РЭГІЁНЫ

### Новыя графіці

Па ўсім Віцебску на месцы ўжо амаль паўсюдна замазаных зуброўскіх запытанняў пра лёс зніклых палітычных дзеячаў з'явіліся новыя графіці. Цяпер іхныя невядомыя аўтары падкрэслена ў чырвоным і зялёным колерах пытаюцца пра самае надзённае для большасці віцябльян – пра заробак. А на шматлюдным Маскоўскім праспекце недалёка ад цэнтру тое самае пытанне з'явілася ў больш катэгарычнай форме: «Дзе заробак, гады?».

### Дах для ўцекачоў

Першы ў краіне прытулак для ўцекачоў з «гарачых кропак» адчыніўся ў Віцебску. На стварэнне «Пункту часовага размяшчэння ўцекачоў» – так назвалі новую ўстанову – даў 100 мільёнаў рублёў Вярхоўны камісар ААН па справах уцекачоў, ён жа будзе плаціць заробкі персаналу. Прытулак разлічаны на 30 чалавек. За мінулы год па статус уцекача ў міграцыйныя ўстановы Віцебска звярнулася каля 200 чалавек.

### Конкурс для беларусазнаўцаў

Імёны 13 лепшых руплівцаў пра беларускую мову назваў конкурс, праведзены на Віцебшчыне. У мінулым траўні ён быў абвешчаны абласным упраўленнем адукацыі разам з газетай "Народнае слова" і мясцовым тэлебачаннем і радыё сярод школьных настаўнікаў. На адмысловай канферэнцыі ў Віцебску пераможцаў узнагародзілі стосікамі кніжак, у ліку якіх чамусьці быў трохтамовы расійска-беларускі слоўнік, і відэакасетамі з зафільмаваным вопытам іхнай працы. Кіраўнік ТБМ у Віцебскай вобласці Іосіф Навумчык адзначае, што ў лік пераможцаў конкурсу трапіла даволі шмат актывістаў таварыства. Удзельнікі канферэнцыі, дырэктары школ і настаўнікі, казалі ў прамовах пра адсутнасць у рэгіёне вышэйшай адукацыі па-беларуску. Гэта адмоўна ўплывае на перспектывы вывучэння беларускай мовы ў сярэдняй школе.

**Міхаіл ЧАРВІНСКІ**

# Прыватная медыцына атрымала «пад дых»

***Медустановы Гомелю перагледзелі ранейшыя дамовы з урачамі, якія займаліся прыватнай практыкай і арандавалі пры гэтым памяшканні ў паліклініках ці бальніцах. Рабілася гэта паводле травеньскай пастановы Савету Міністраў за нумарам 600, прынятай, дарэчы, на падставе патрабавання кіраўніка дзяржавы падчас справаздачы ўраду.***

Як вынік, Гомельскае гарадское ўпраўленне аховы здароўя скасавала дамову на арэнду памяшкання ў паліклініцы № 12 з псіхатэрапеўтам Іванам Сквірам.

У паліклініцы № 1 пазбавіўся пакою пластычны хірург Чэслаў Кушалевіч.

Яшчэ аднаму хірургу забаронены прыватны амбулаторны прыём у 3-й гарадской клінічнай бальніцы.

Разарвана дамова на арэнду памяшкання ў Светлагорску з псіхатэрапеўтам Інэсай Касьянавай.

Намеснік начальніка абласнога ўпраўлення аховы здароўя Ігар Машукоў заявіў, што зроблена гэта дзеля таго, каб прыватнікі не карысталіся дзяржаўным медыцынскім абсталяваннем – напрыклад, тыя ж аперацыйнымі – і наогул не перашкаджалі існуючым дзяржаўным установам самім зарабляць грошы, аказваючы паслугі насельніцтву. Іншымі словамі, урач-прыватнік бачыцца тут непажаданым канкурэнтам, нават калі плаціць ён, як, напрыклад, Іван Сквіра, больш мільёна рублёў гадавой арэнды. Адначасова медыцынскае ўпраўленне звярнулася праз Міністэрства аховы здароўя ва ўрад краіны, каб той дазволіў працягваць арэнду з прадпрымальнікамі, якія абслугоўваюць бальнічнае абсталяванне і не займаюцца лекаваннем альбо арандуюць падвальныя памяшканні, у прыватнасці, для фотамайстэрні.

Падобнай просьбе ёсць тлумачэнне. Здача памяшканняў у арэнду прыносіла гомельскай медыцыне, якая зараз фінансуецца з бюджэту не болей як на 70 адсоткаў, неблагі прыбытак. Прынамсі, за першы квартал гэтага году ад арэнды памяшканняў прыватнікамі абласному ўпраўленню паступіла 8,7 мільёна рублёў.

– У нас, – кажа начальніца планава-эканамічнага аддзелу абласнога ўпраўлення аховы здароўя Тамара Паўлюк, – атрымліваецца так: адзін пункт пастановы патрабуе павялічваць даходы ад пазабюджэтнай дзейнасці, а другі, наадварот, забараняе. Здача ў арэнду вольных памяшканняў – гэта наша пазабюджэтная дзейнасць.

Так што згаданая вышэй пастанова Саўміну, дауўшы, што называецца, пад дых урачам-прыватнікам, адначасова перапыніла і адну з крыніцаў самафінансавання медыцыны.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

# Хакей на Няве

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

### Марафон на выжыванне

Наступны дзень аказаўся больш спрыяльны для беларуска-расійскіх стасункаў на найвышэйшым узроўні. Па словах А. Лукашэнкі, яму ўдалося ажно 10 гадзінаў перамаўляцца з У. Пуціным, спачатку на борце цеплахода «Расія», а потым падчас пешых шпацыраў па ваколіцах «паўночнай сталіцы» Асноўнымі тэмамі перамоваў былі аспекты палітычнай інтэграцыі двух дзяржаваў і таго, што ёй перашкаджае, – эканомікі.

У якасці аперытыву расійскі прэзідэнт паінфармаваў беларускага пра вынікі расійска-амерыканскага саміту, сустрэчы «дваццаткі» *NATO* ў Рыме, саміту «Расія–Еўрасаюз». Відавочны «прабел у адукацыі» партнёра па кааліцыі ў гэтых пытаннях, здаецца, пачынае нерваваць У. Пуціна.

Падчас сустрэчы Аляксандру Лукашэнку давялося змяніць свой погляд на дзейнасць яшчэ не абранага саюзнага парламенту. Пад ціскам расійскага боку было вырашана, што спачатку неабходна перапісаць Саюзную дамову, потым абраць парламент Саюзнай дзяржавы, а пасля ўжо праводзіць рэферэндум па Канстытуцыі. Але тэрмінаў, у якія будуць праводзіцца гэтыя «мерапрыемствы», журналістам не паведамілі.

Спіс эканамічных праблемаў значна даўжэйшы. Перад ад'ездам на радзіму А.Лукашэнка перадаў У. Пуціну ліст з іхнім пералікам. Беларускі кіраўнік выказаў спадзяванне, што асабістае ўмяшанне прэзідэнта Расіі дапаможа вырашыць спрэчныя пытанні. Так руплівая хатняя гаспадыня пасылае ў выходны дзень свайго мужа на кірмаш – рыхтуе спіс усяго, чаго душа пажадае.



У двухбаковых стасунках дагэтуль не вырашаная праблема ўзяцця падатку на дабаўленую вартасць у гандлі паміж дзвюма краінамі, якія ўжо «эканамічна пераўтвараюцца ў адзіную» (А. Лукашэнка).

Беларускі кіраўнік папрасіў, каб прыродны газ у Беларусь пастаўляўся выключна дзяржаўным «Газпрамам», а не прыватнай «ІТЭРАЙ», якая, дарэчы, з учорашняга дня напалову скараціла нам пастаўкі з прычыны неразліку. Каб усё ж разлічыцца за спажыты газ, А. Лукашэнка папрасіў калегу націснуць і выдзеліць дастаткова грошай на набыццё беларускай сельскагаспадарчай і іншай тэхнікі. Такім чынам грошы, спагнаныя з Расіі за навюткі металам «*made in Belarus*», мяркуецца ёй жа і вярнуць.

### Пралёт міма «калідору»

У нядзелю і панядзелак, што папярэднічалі сустрэчы А. Лукашэнкі з У. Пуціным, расійскі прэзідэнт разам з Герхардам Шродэрам і Леанідам Кучмам падпісалі сапраўды вельмі істотную дамову. Яна, здаецца, назаўсёды пахавала ідэю «абходнага калідору» для расійскага газавага транзіту праз Беларусь і Польшчу.

Спачатку Расія і Украіна абвесцілі пра стварэнне кансорцыуму па кіраванні ўкраінскай газатранспартнай сістэмай. Потым у якасці патэнцыйнага інвестара да дамовы далучылася Германія. Кіраўнікі трох дзяржаваў падпісалі сумесную заяву аб супрацоўніцтве пры выкарыстанні магістральных газаправодаў, што праходзяць па тэрыторыі Украіны, для бесперапыннага транзіту газу ў Еўропу.

Германія, дарэчы, адзін з асноўных спажыўцоў расійскага газу. І Герхард Шродэр у Санкт-Пецярбургу паабяцаў пачаць інвестыцыі ва ўкраінскую газавую гаспадарку з мэтай яе мадэрнізацыі. Бо ўсе газаправоды, што ідуць па тэрыторыі краіны, апошнія дзесяць гадоў сур'ёзна не рамантаваліся.

Як адзначаюць расійскія СМІ, усе бакі перамоваў падкрэслілі, што асноўны партнёр Расіі ў газавым экспарце – Украіна, а праект пабудовы «трубы» ў абход Украіны – праз Беларусь і Польшчу – прызнаны ў Маскве бесперспектыўным. Віцэ-прэм'ер ураду Расіі Віктар Хрысценка, які курыруе газавую галіну, заявіў, што пытанне пра гэты праект знятае з парадку дня, і заклікаў нават выключыць з лексікону само паняцце «абходная лінія». Гэта значыць, што беларусы не змогуць «стрыгчы купоны» за сваё надзвычай выгаднае геаграфічнае становішча.

### Ці засталіся пытанні?

Па заканчэнні першага этапу перамоваў А. Лукашэнка бадзёра адрапартаваў: «Нявырашаных пытанняў няма». Але спіс праблемаў на вырашэнне У. Пуціну пакінуў і з'ехаў з Санкт-Пецярбургу зусім не героем-інтэгратарам на белым коні. Канкрэтных вынікаў візіту амаль не відаць. Яшчэ крыху – і проза эканомікі назаўсёды загубіць паэтычную рамантыку інтэграцыйнай палітыкі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**НЯМІГА**

# Ахвярам – статус ахвяраў

***11 чэрвеня ў Маскоўскім райсудзе Мінску аднавіўся разгляд чатырох грамадзянскіх іскаў бацькоў загінулых і пацярпелых у трагедыі на Нямізе.***

Ніна Інькова, Наталля Навакоўская і Вольга Янцова, якія 30 траўня 1999 году страцілі сваіх дзяцей, а таксама пацярпелы Вячаслаў Чабанян падалі ў райсуд іскі аб матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды. Жыццё кожнага з дзяцей і здароўе, страчанае ў трагедыі на Нямізе, былі ацэненыя ў чатыры мільёны беларускіх рублёў – каля 10 тысячаў даляраў ЗША. Цяпер памер іскаў будзе істотна павышаны – да 40–60 тысячаў даляраў ЗША, сцвярджае юрыдычны прадстаўнік істцоў, старшыня арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак.

Першае судовае паседжанне па грамадзянскіхісках прайшло яшчэ 5 жніўня 1999 году, аднак тым жа днём суддзя Вольга Гусакова, нягледзячы на пратэст істцоў, прыпыніла вытворчасць па справах да заканчэння следства па крымінальнай справе аб масавай гібелі людзей, узбуджанай пракуратурай Беларусі назаўтра пасля трагедыі – 31 траўня 1999 году. Толькі праз два гады, 18 і 20 чэрвеня 2001 году, былі прад'яўленыя абвінавачанні ў службовай халатнасці двум міліцэйскім чыноўнікам: былому начальніку аддзелу масавых мерапрыемстваў ГУУС Мінгарвыканкаму Міхаілу Кандрацціну, які цяпер працуе ў сакратарыяце акадэміі МУС, і былому начальніку міліцыі грамадскай бяспекі Віктару Русаку. Паводле абвінавачання, прад'яўленага згодна з Крымінальным кодэксам у рэдакцыі 1960 году, абодвум пагражала пазбаўленне волі тэрмінам да 3 гадоў, або папраўчыя работы тэрмінам да 2 гадоў, ці звальненне з пасады. 20 снежня 2001 году следства перадало 22 тамы крымінальнае справы наглядаючаму пракурору, а затым – у Цэнтральны суд Мінску. 25 сакавіка суддзя Цэнтральнага раёну Мінску П.Кіркоўскі, перакваліфікаваўшы абвінавачанне, спыніў крымінальную справу за сканчэннем тэрміну даўнасці. Суддзя з незразумелых матываў палічыў, што дзеянні В. Русака і М.Кандрацціна падпадаюць пад артыкул 428 «Службовая халатнасць», частку першую (Крымінальны кодэкс 1999 году), не звязаную з гібеллю людзей, максімальнае пакаранне паводле якой – да 2 гадоў пазбаўлення волі. Між тым 30 траўня 1999 году ў Мінску загінулі




53 чалавекі пераважна маладога веку.

«Я лічу, нават пасля гэтага рашэння суду – мы зрабілі правільна. Маю пазіцыю на момант заканчэння следства падтрымаў наглядаючы пракурор і намеснік генеральнага пракурора Сцяпан Касуха. Я з павагай стаўлюся да любога суддзі, у тым ліку і да Кіркоўскага. Ягоных аргументаў – чаму ён так паступіў – я не ведаю», – падкрэсліў начальнік следчага аддзелу па асабліва важных справах пракуратуры Беларусі Валерый Кудзін, які сканчаў следства па трагедыі на Нямізе.

Цяпер у «ахвяраў Нямігі» засталася толькі адна надзея – на аднаўленне чатырох грамадзянскіх іскаў, спыненых Маскоўскім райсудом сталіцы ў сувязі з расследаваннем крымінальнае справы. Алег Волчак, юрыдычны прадстаўнік аднаго з істцоў, упэўнены, што крымінальная справа «мусіла пачынацца і ісці па артыкуле 168» – тады, на яго думку, «прысуд быў бы абвінаваўчы». Цяпер жа, са спыненнем крымінальнай справы па сканчэнні тэрміну даўнасці, юрыстам цяжэй будзе даводзіць правату пацярпелых у грамадзянскіх працэсах.

Канчатковая мэта распачатых судовых працэсаў – імкненне дабіцца ад дзяржавы надання адмысловага статусу пацярпелых такім людзям, як бацькі загінулых тры гады таму на Нямізе. Рэч у тым, што да Нямігі на Беларусі адбылося каля дзесяці падобных трагедый, але дзяржава не надае іхнім ахвярам афіцыйнага статусу. Яны як бы ёсць – але іх няма. Па сутнасці атрымліваецца, што чалавечае жыццё для дзяржавы нічога не вартае, яно не мае цаны. Праваабаронцы ж хочуць даказаць, што дзяржава мусіць несці адказнасць за кожнае загубленае жыццё.

Наступнае паседжанне Маскоўскага суду прызначанае на 19 чэрвеня.

**Рыгор БУЯН**

# Шыць абы шыць

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

І швейнікі, і гандляры адзначаюць рэзкае падзенне пакупніцкай здольнасці грамадзянаў краіны. Купіць гарнітур за 70–90 тысяч рублёў – вялікая раскоша для беларускіх мужчынаў.

Не выручае і расійскі рынак. Там гомельскія гарнітуры становяцца неканкурэнтаздольнымі з прычыны высокага кошту. Да таго ж прабіцца на тамтэйшы рынак зусім не проста.

– У Расіі ўсё прыватызавана, – кажа выканаўца абавязкаў начальніка аддзелу маркетынгу і збыту «Камінтэрну» Аляксандр Барадулін. – Усе прадпрыемствы гандлю прыватызаваны. У іх доўгатэрміновыя дамовы з пастаўшчыкамі. Каб улезці ў гэтую сістэму, патрэбны велізарныя высілкі. Свайго ж фірменнага гандлю ў Расіі мы не маем. Для нас вельмі дорага ўтрымліваць у Расіі фірменныя магазіны.

Нягледзячы на зніжэнне рэалізацыі гарнітураў, адсутнасць сродкаў на тканіну, іншыя матэрыялы, беларускія ўлады патрабуюць ад прадпрыемства нарошчваць аб'ёмы прадукцыі, каб мець добрую статыстыку. На апошнім паседжанні Гомельскага аблвыканкаму з удзелам віцэ-прэм'ера Сяргея Сідорскага генеральны дырэктар «Камінтэрну» Лягчылін быў папярэджаны, што пазбавіцца пасады, калі за 6 месяцаў не дасягне летняга ўзроўню выпуску гарнітураў. Яму наогул раілі зняць пінжак, надзець рабочую робу і ехаць у Расію прадаваць гарнітуры, што шые «Камінтэрн».

## *Амерыка просіць Расію*

Дзяржсакратар ЗША Колін Пауэл звярнуўся да Расіі з просьбай выкарыстаць свой уплыў для таго, каб вырашыць праблемы, якія ўзніклі паміж Беларуссю і Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Аб гэтым ён паведаміў 12 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў Уістлеры (Канада), якая адбылася пасля сустрэчы з міністрам замежных спраў Расіі Ігарам Івановым, паведамляюць расійскія сродкі масавай інфармацыі са спасылкай на агенцтва «Рэйтэр». «Іваноў сказаў, што Расія заўжды падкрэслівала, што Беларусь мае патрэбу ў супрацоўніцтве з міжнароднай супольнасцю, і ён пракантралюе, што робіцца ў гэтым накірунку», – адзначыў афіцыйны прадстаўнік, які пажадаў застацца невядомым.

**Алег САКАЛОЎ**

## Дзверы зачыненыя

*Пакуль канфлікт вакол Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску не будзе станоўча вырашаны, дзверы ў Еўропу для Беларусі застануцца зачыненымі. «У інтарэсах Беларусі будзе паляпшэнне адносінаў з Саветам Еўропы і еўрапейскімі структурамі», аднак без станоўчага вырашэння канфлікту з КНГ АБСЕ пацяплення стасункаў з СЕ чакаць нельга. Пра гэта па выніках візіту ў Мінск 10–12 чэрвеня заявіў кіраўнік дэлегацыі Парламенцкай асамблеі Савету Еўропы Вольфганг Берандт.*

«Я думаю, што ў інтарэсах Беларусі палепшыць свае стасункі з АБСЕ і Еўрасаюзам», – заявіў Вольфганг Берандт. Кіраўнік дэлегацыі ПАСЕ сказаў: «Я падзяляю пазіцыю ўраду маёй краіны, які лічыць, што ў змене мандату няма патрэбы». В. Берандт абяцаў, што «беларускае пытанне» абавязкова будзе ўзнятае 23–27 верасня на сесіі ПАСЕ.

**Рыгор БУЯН**

# Славяне ідуць кружнымі шляхамі

## З-за новых сувязяў Захаду і Расіі становішча Беларусі і Украіны выглядае надта змрочна

У той час, як прэзідэнты Расіі і ЗША заяўляюць пра ўмацаванне сяброўства паміж сваімі дзяржавамі, Беларусь і Украіна, здаецца, вырачаны на загніванне ў галечы і хаосе посткамуністычнага застою. Ці можа гэтая сітуацыя змяніцца, калі ўзяць пад увагу, што прэзідэнт Расіі схільны рашуча весці сваю краіну ў новым напрамку? Падобна, што не, пакуль Беларусь і Украіну ўзначальваюць такія прэзідэнты, як цяпер.

З гэтых дзвюх краінаў Беларусь з насельніцтвам 10 мільёнаў мае менш шанцаў атрымаць у бліжэйшы час новага кіраўніка. Аляксандр Лукашэнка быў нядаўна пераабраны, і існуе інфармацыя, што ён плануе правесці рэферэндум, каб змяніць канстытуцыю і атрымаць магчымасць правіць краінай да 2015 году. На Украіне, чыё насельніцтва складае каля 50 мільёнаў, пазіцыі прэзідэнта Кучмы выглядаюць болей хісткa, аднак нішто не паказвае, што ён можа ў бліжэйшы час адысці ад улады.

Прэзідэнту Лукашэнку прасцей. Беларускія апазіцыйныя лідэры ўяўляюць сабой групку, якая выпрошвае грошы ў сваіх заходніх спонсараў і намагаецца прыцягнуць іхную ўвагу. Яны не надта высільваюцца, каб абудзіць пасіўнае насельніцтва краіны. Калі прэзідэнт правядзе гэтым летам рэферэндум, то, як можна меркаваць, яго выйграе. У Леаніда Кучмы сітуацыя складаецца адваротная. Яго партыя атрымала ўсяго 12 працэнтаў галасоў на нядаўніх выбарах, і ён быў вымушаны фармаваць парламенцкі блок з разрозненых групаў і паасобных дэпутатаў. Пасада прэзідэнта дае Л. Кучму вялікі арсенал магчымасцяў. Хоць прынятыя на Украіне брудныя палітычныя прыёмы бляknуць у параўнанні з тымі, што выкарыстоўваюцца ў Беларусі, дзе некалькі апанентаў Лукашэнкі проста зніклі, але і праціўнікі Кучмы сутыкаюцца з разнастайным бюракратычным і юрыдычным ціскам.




Расія дагэтуль схільная назіраць за кіраўнікамі сваіх славянскіх суседзяў, нічога не робячы, як бы непрываблівa ні выглядалі іхныя дзеянні. Аднак ці мог У. Пуцін, улічваючы яго сённяшняе прыяцельства з прэзідэнтам Джорджам Бушам, скарыстаць уплыў Расіі, каб скіраваць гэтую пару кволых славянскіх краінаў у больш заходнім кірунку?

Як бы там ні было, цёплыя стасункі Пуціна з Захадам мяняюць усю карціну. Леанід Кучма і ягоныя паплечнікі цяпер называюць стратэгічнымі прыярытэтамі Украіны ўсталяванне шчыльнейшых сувязяў з *NATO* (з якой Украіна ўжо мае асобнае пагадненне), умацаванне адносінаў з Еўрапейскім Саюзам і ўступ у Сусветную гандлёвую арганізацыю, якая фармулюе правілы міжнароднага гандлю.

Прэзідэнты Пуцін і Лукашэнка ладзяць кепска. Расія хоча, каб Беларусь здзейсніла лібералізацыю сваёй эканомікі, галоўным чынам дзеля таго, каб расійскія фірмы змаглі набыць яе асноўныя прамысловыя аб'екты. Пуцін таксама хоча, каб Беларусь у поўным аб'ёме аплачвала атрыманую з Расіі танную энергію, і болей не жадае даваць ёй крэдыты на льготных умовах.

Пры ўсім тым, Расія ні разу не спрабавала пазбавіць Лукашэнку ўлады ці падтрымаць адпаведныя спробы Захаду. Таму Расія лічыць Беларусь лаяльным славянскім саюзнікам і буферам паміж сабой і Захадам. Аднак калі Расія ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, – што можа адбыцца ў бліжэйшыя два гады, калі яна здолее правесці неабходныя рэформы, – то Беларусь сутыкнецца, па словах аднаго мінскага чыноўніка, з «вельмі непрыемнымі наступствамі».

Сённяшняя бядотная сітуацыя ў краінах пры ўсходніх межах Еўропы рыхтуе для Захаду змрочныя перспектывы. І Украіна, і Беларусь прадаюць зброю самым ненадзейным пакупнікам і здзяйсняюць транзіт практычна ўсяго, што Захад не хоча ўпускаць на свае тэрыторыі. Самыя высокапастаўленыя госці прыязджалі сёлета ў Беларусь з Лівіі, Ірану, Іраку і Сірыі. Раней сёлета Амерыка ўжо заяўляла, што Беларусь прадае сістэмы супрацьпаветранай абароны Іраку. Але дзесяткі грузавых самалётаў працягвалі лятаць без ніякага дагляду з Мінску ў Багдад. Беларусь пасля 11 верасня, на погляд Злучаных Штатаў, анічым ім не дапамагла. Калі пастаўленая Беларуссю зброя саб'е амерыканскі самалёт над Іракам, раздражненне можа перайсці ў гнеў.

Пакуль амерыканцы цешацца сваім новым сяброўствам з Расіяй, палітыка Захаду ў дачыненні да Украіны і Беларусі за мінулыя дзесяць гадоў дамагася значна меншых поспехаў, хоць Украіна і змагла прынамсі захаваць сваю незалежнасць ад Расіі. Аднак Беларусь і Украіна застаюцца трывожнымі рэгіёнамі непарадку каля ўсходніх межаў Еўропы. Было б іроніяй лёсу, калі б у патрэбным напрамку іх пачала падштурхоўваць Расія, іх даўнейшы імперскі гаспадар.

***The Economist*,**
**Вялікабрытанія**

# Асаблівасці расійскай карупцыі

## *Каэфіцыент карыснага дзеяння хабару – 98%*

***Паводле дакладу прэзідэнта фонду «ИНДЕМ» Георгія Сатарава пра маштабы карупцыі ў Расіі, на хабар прадпрымальнікі аддаюць у сярэднім 33,5 мільярды даляраў. Гэта толькі крыху меней за даходную частку бюджэту Расіі ў 2001 годзе. «Падарункі» медыкам і выкладчыкам штогод абыходзяцца грамадзянам у 2,8 мільярда даляраў. У судах кожны год атрымліваюць «лішніх» 274,5 мільёна даляраў.***

**– Спадар Георгій, а як можна было гэтак дакладна падлічыць: хто, колькі і на што даў хабар?**

– Асноўны інструмент – анкета. Мы задавалі пытанні простым грамадзянам і бізнесоўцам. З прадпрымальнікамі было цяжка: яны не любяць адказваць на такія «інтымныя» пытанні. Гэта было для іх нібыта прызнанне ва ўчыненні злачынства. Натуральна. Мы выкарыстоўвалі тонкія сацыялагічныя тэхналогіі, якія дапамагалі нам атрымаць вынік. Напрыклад, у анкеце было «схавана» некалькі аднатыпных, але па-рознаму сфармуляваных пытанняў. Цікава, што ў адным выпадку людзі катэгарычна адмаўляюць саму магчымасць давання хабару, а праз дзесяць пунктаў адказваюць: у месяц на хабар чыноўнікам у мяне сыходзіць гэтулькі адсоткаў ад абароту.

**– Колькі людзей вы апыталі?**

– Болей за 2 тысячы звычайных грамадзян і каля 700 бізнесоўцаў. Мы бралі людзей рознага веку і сацыяльных групаў, што жывуць па ўсёй Расіі, то бок ахапілі ўсе 7 федэральных акругаў. Анкеты былі ананімныя, але ўзрост і род заняткаў у іх пазначаліся.

**– Ці можна на падставе інфармацыі пра такое невялікае, як для Расіі, кола людзей рабіць высновы адносна ўсёй краіны?**

– Без сумневу. Ёсць стандартныя статыстычныя працэдуры падліку. Скажу болей: і па метадзе збору звестак, і па метадах разліку гэтыя лічбы заведама мінімальныя (думаю, яны заніжаныя ўтрая). Мы гэта зрабілі абсалютна свядома, бо хочам называць лічбы, за якія можам адказваць. Мы разглядалі не ўсе віды карупцыі. Так, у апытанне не трапілі алігархі – са сваімі спецыфічнымі стасункамі з уладай і асаблівымі памерамі хабару. Не адлюстраваныя ў прадстаўленых намі лічбах карупцыя ў арміі і тыя грашовыя адносіны, якія склаліся паміж праваахоўнымі органамі і злачыннымі групоўкамі.

**– А чаму вы вырашылі заняцца такім даследаваннем? Гэта быў заказ ураду? Вы перадалі атрыманыя вынікі ў афіцыйныя інстанцыі?**

– Мы перадалі даклад у адміністрацыю прэзідэнта. Але лічбы, якія так узрушылі грамадства, – толькі малая частка гэтага дакладу. Сам дакумент значна шырэйшы, ён называецца «Дыягностыка расійскай карупцыі. Сацыялагічны аналіз». Там багата іншага матэрыялу, звязанага з сацыяльнай праблемай хабарніцтва наогул.

**– Ці ёсць у расійскай карупцыі нацыянальныя асаблівасці?**

– Тры характэрныя рэчы я ўсё ж такі вылучыў бы. Першае. Наша карупцыя трывала ўплеценая ў тканкі іншых сацыяльных адносінаў. На Захадзе гэта так востра не прадстаўлена. Другое. Вельмі моцная нізавая карупцыя, так званая бытавая. Нарэшце, трэцяе. Гэта такая спецыфічная для Расіі і некаторых іншых дзяржаваў (Казахстану, Інданезіі) разнавіднасць карупцыі, як хабарніцтва ў вялікім бізнесе. Гэта калі чыноўнікі ўсталёўваюць кантроль над бізнесам. Гэта значыць, спаганяюць адміністрацыйную рэнту не праз хабар, а наўпрост з фірмаў.

**– У 1998 годзе мы, прааналізаваўшы некалькі дзесяткаў крымінальных справаў чыноўнікаў розных узроўняў, прыйшлі да высновы: існуе агульнарасійскі тарыф хабару. Ён не змяняецца ў залежнасці ад геаграфіі – ён адзіны для ўсёй Расіі. А з якімі нечаканасцямі сутыкнуліся вы?**

– Вашая выснова надзвычай цікавая, і яна абсалютна слушная. Для нас жа, напрыклад, было шокавым адкрыццём, што для людзей, якія даюць хабар пры паступленні сына ў ВНУ, галоўнае – не патрапіць у інстытут, а пазбегнуць службы ў арміі. Яшчэ адно адкрыццё: мы вывучалі, якія эмацыйныя рэакцыі ў людзей узнікаюць пасля давання хабару. На першае месца выйшлі вясковыя бабулі. Яны, як ні дзіўна, даўшы хабар, атрымліваюць задавальненне значна часцей, чымсьці багатыя маладыя людзі з буйных гарадоў. Дзякуючы вось такім адкрыццям мы пакрысе пачынаем разумець псіхалогію нашых расіян, чаму яны будуць даваць хабар нават тады, калі ў гэтым няма ніякай неабходнасці. Дзіўная рэч: карупцыйная здзелка сканчаецца няўдачай усяго ў двух працэнтах выпадкаў! То бок гэта самая эфектыўная сфера паслуг у Расіі – 98% каэфіцыенту карыснага дзеяння.

**Алена СКВАРЦОВА,**
***«Собеседник Online»***

КОШТ ЖЫЦЦЯ

# Каўбаса «таўсцее» коштам

**У Беларусі зноў скараціўся пералік сацыяльна значных тавараў**



Фота В.Шляпака

Здымаецца кантроль за цэнаўтварэннем на шэраг прадуктаў: на ялавічыну, свініну, а таксама каўбасныя вырабы, у тым ліку сасіскі, сардэлькі першага і другога гатунку і безгатунковыя; мясныя хлябы, сальцісоны, крывяныя і ліверныя каўбасы, паштэты. З падачы Міністэрства эканомікі адпаведная пастанова Саўміну прынятая 27 траўня і ўступіць у дзеянне пасля ўзгаднення ў ведамствах і апублікавання ў друку.

Бессмяротная показка ўсіх пакаленняў калгасных аграномаў, што два дождджыкі ў траўні перасільваюць усю іхную навуку, сёлета мала спраўджваецца. Хоць месяц таму хмары над палямі не высыхалі, аднак у чэрвені нанава даводзіцца перасяваць збожжавыя культуры ў Віцебскай, Брэсцкай, на паўночным захадзе Магілёўскай вобласці, у рэгіёне паўночнага ўсходу і ў раёне Слуцку Мінскай вобласці, па ўсходзе, поўдні і захадзе Гомельскай вобласці, на крайнім захадзе Гродзенскай вобласці.

Калі верыць звесткам з аператыўных зводак Віцебскага аблсельгасхарчу, то ўжо сёння страты будучага ўраджаю ад гарачага надвор'я складаюць звыш 30%. Больш за астатнія ад недахопу вільгаці церпяць Браслаўскі і Шаркаўшчынскі раёны, а таксама Полацкі. Як вядома, апошні вызначаны для правядзення паказушнага свята «Дажынкі-2002». Ці не сорамна будзе піць і танчыць у зоне выгаралага ўраджаю? У заходняй частцы Віцебшчыны засуха пашкодзіла прыкладна 40 тысяч гектараў. Пасевы на 10 тысячах гектараў тут знішчаныя поўнасцю.

Прыроду не падманеш, а таму прычыны слабога выжывання раслінаў ва ўмовах высокай сонечнай актыўнасці адмыслоўцы раяць шукаць у красавіцкіх праліках на сяўбе. На Брэстчыне, прыкладам, 11.04.2002 калегія Камітэту дзяржкантролю адзначала, што «на мінеральныя ўгнаенні выдаткавана ўсяго 70% сродкаў; на рамонт энерганасычаных трактароў – 50%; на вапнаванне кіслай глебы – 42% ад запланаваных сродкаў». Зразумела, што зараз тут карэктуюць прагнозныя паказчыкі, і палымяныя заклікі да хлебаробаў забяспечыць валавы збор збожжа ў адзін мільён тонаў больш не гучаць. Брэсцкія начальнікі параіліся і на ўсялякі выпадак адправілі ў адстаўку старшыню Камітэту па сельскай гаспадарцы і харчаванні Якава Бухавецкага. Ён нібыта ўхіляўся ад таго, каб асабіста афішаваць перад прэзідэнтам Лукашэнкам рэкордныя абавязацельствы вобласці, а таму недабор ураджаю лягчэй будзе спісаць на персанальную адказнасць гэтага галоўнага сейбіта ў рэгіёне.

Больш складана, чым брэсцкаму губернатару Далгалёву, шукаць шляхі для адступлення яго калегу на Міншчыне сп. Дамашкевічу. Колькі ён абяцаў свайму «патрону» засыпаць у засекі 2,5 мільёнаў тонаў збожжа, а сёлета ізноў не ўдасца пазбегнуць правалу. Так што хоць і спагадаюць Лукашэнку і яго паплечнікам праваслаўныя іерархі, але нябесная канцылярыя паставіла крыж на іхным прагнозе. Ужо паводле цяперашніх стратаў відавочна, што краіна не атрымае 6,4 мільёна тонаў збожжа, прадугледжаных урадавым заданнем. Савет Міністраў таму робіць захады, каб насельніцтва ашчадней спажывала прадукты харчавання.

У верасні 2001 году адпусцілі на волю кошты на алей, яйкі, рыбу і шэраг малочных вырабаў. Цяпер, ад 27 траўня, вытворцы і гандаль атрымалі дазвол рабіць большыя накруткі на мясныя вырабы: замест 11% – да 30%. Прыкладам, кілаграм добрых сасісак падаражэе амаль на тысячу рублёў. Падвышаныя кошты дадуць некаторую палёгку мясакамбінатам і крамам, але цяжарам лягуць на пакупнікоў. Як сведчыць статыстыка, летась спажыванне мясапрадуктаў на чалавека склала 58 кілаграмаў за ўвесь год, альбо 158 грамаў у дзень. За чатыры месяцы сёлетняга году гэты паказчык скараціўся яшчэ на 4%. Вышэйшыя кошты, што чакаюцца ў бліжэйшы час, адмоўна паўплываюць на спажывецкую здольнасць насельніцтва. На паліцах будзе багата, а ў страўніках пуста.

**Галіна БАРАВАЯ**

# «Мерседэс» у «падарунак»

## *Хто раскрадае маёмасць калгасаў?*

Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ

***Крымінальныя звесткі з розных рэгіёнаў Беларусі сведчаць пра рост тэндэнцыі раскрадання калгаснай маёмасці не толькі збяднелымі вяскоўцамі, але і начальствам. Толькі ў першым квартале гэтага году праваахоўнымі органамі краіны ў сферы АПК выяўлены 792 злачынствы, па якіх узбуджаны крымінальныя справы. Да матэрыяльнай адказнасці прыцягнута 1 319 службовых асоб, да дысцыплінарнай – 480. Супраць выкрытых у крадзяжах гаспадарнікаў заяўлены судовыя іскі больш як на 750 мільёнаў рублёў.***




### Доля аднаго – 72 мільёны

Пра гэтыя крымінальныя гісторыі трэба ведаць, каб не думаць, быццам у краіне зараз на ўліку кожны народны рубель. 174 «Мерседэсы», набытыя для старшыняў гар- і райвыканкамаў за амаль 4 мільёны даляраў з таямнічага грашовага фонду прэзідэнта, адлюстроўваюць разбэшчанасць улады і выклікаюць на месцах справядлівае абурэнне. Людзі ў вёсках даведзеныя да галечы, з імі своечасова не разлічваюцца за зробленае, затое ўсе яны сведкі, што на шыкоўныя лімузіны для начальства дзяржава грошай не шкадуе.

Пацягацца з вертыкальшчыкамі за прэстыжнасць службовага аўто спрабуюць і кіраўнікі ніжэйшага рангу. Прыкладам, спакусіўся на старасці атрымаць персанальны «Мерседэс» 65-гадовы старшыня калектыўнадолевай гаспадаркі «Семежава» Капыльскага раёну Іван Малюжыц. Да дня яго юбілею канторшчыкі-бухгалтары тармазнулі на бягучым рахунку буйную суму грошай за мяса і малако, потым пералічылі іх на пакупку дарагой іншамаркі і праз рашэнне агульнага сходу аформілі «Мерседэс» як бясплатны падарунак для старшыні. Той прыняў паднашэнне як належнае. Аднак вопытны наменклатуршчык страціў у гэтым выпадку ўсялякую асцярожнасць. Абласныя чыноўнікі, якія ні слова не маглі сказаць супраць царскіх падарункаў у раёны, з непрыхаванай злосцю адрэагавалі на тое, што нехта жадае мець лепшы за іхныя «членавоз». Адразу і ўшчэнт забыліся і дасягненні нядрэннай калектыўнай гаспадаркі, і 30-гадовая дзейнасць яе старшыні. Іван Малюжыц страціў пасаду і гонар, а па факце бясплатнага атрымання ім у падарунак іншамаркі, за якую заплацілі 72 мільёны рублёў калгасных грошай, узбуджаная крымінальная справа.

### Старшыня – у судзе, старшыніха – пад следствам

«Царская сям'я» Алега і Ларысы Машэй з вёскі Сякерычы Клецкага раёну, заможнасці якой зайздросцілі жыхары ва ўсім наваколлі, ніяк зараз не выкараскаецца з няласкі лёсу. Крымінальную справу былога старшыні калектыўнага прадпрыемства «Агракамбінат «Клецкі» Алега Машэя разглядае ў чэрвені суд Нясвіжскага раёну Мінскай вобласці. У гэты час следчыя Клецкага РАУС узбудзілі яшчэ адну крымінальную справу па факце махлярства ягонай жонкі.

Невялікую садаводчую гаспадарку паблізу райцэнтру Алег Машэй узначаліў пасля вылучэння ў кіраўніцтва мясцовай улады дырэктара Анатоля Рубаніка. (Цяпер А. Рубанік – намеснік міністра сельскай гаспадаркі. – *Заўв. аўт.*). Пераемнік быў перад тым шараговым брыгадзірам, што спарадзіла шмат чутак, у тым ліку небеспадстаўных, пра ўплывовыя сувязі Машэевай радні. Зрэшты, той, хто яго прызначаў, не вельмі палохаўся абгавораў пра магчымыя правалы маладога і недасведчанага кіраўніка. «Шэф» па-ранейшаму заставаўся жыць у саўгасным асабняку на ўездзе ў Сякерычы і штодня наведваў гаспадарку. Акрамя таго, як старшыня райвыканкаму, А. Рубанік быў зацікаўлены завяршыць будаўнічыя праекты ў саўгасе «Клецкім» пад тэхналогію перапрацоўкі садавіны. Яблыкі з ураджайных навакольных садоў не знаходзілі на тэрыторыі раёну поўнага збыту. Былы вінны цэх Клецкага кансервавага заводу, зачынены ў гарбачоўскую антыалкагольную кампанію, не паддаваўся аднаўленню, бо яго паспелі разрабаваць да голых сценаў. Жыць жа без уласнага бровару сельскагаспадарчаму раёну цяжка: п'юць людзі шмат, а акцызны падатак сплывае зусім у іншыя рукі. Урэшце эканамічная ідэя раённага начальства набыла прабіўную сілу, і ў 1995 годзе ў саўгасе «Клецкім» з'явіўся прадукцыйны вінзавод. А каб ліцэнзаваць спецыфічную дзейнасць, закуп сыравіны і продаж спіртовых напояў, саўгас быў зліквідаваны, выведзены з ліку дзяржаўных, і вінавытворчасць набыла статус калектыўнага прадпрыемства «Агракамбінат «Клецкі». Адзінаўладдзе Алега Машэя ў ім было падмацавана дэпутацтвам старшыні ў сельскім і раённым Саветах. Адмыслова для старшыні ў Нямеччыне быў куплены джып за 30 тысяч даляраў.

Гісторыя гэтай іншамаркі таксама цікавая.

Каб выключыць у гаспадарцы нават мізэрны супраціў, Алег Машэй дамовіўся, што грошы на рахунак ЗАТ «Белаўтагаз», якое ўзначальваў у той час цяперашні міністр транспарту і камунікацый Міхаіл Баравы, пералічыць мінскі партнёр агракамбінату – СП «Сен» (былы дырэктар СП «Сен» Рыгор Пяткевіч зараз намеснік прэзідэнта канцэрну «Белдзяржхарчпрам». – *Заўв. аўт.*). За гэтую паслугу «Сен» атрымаў з «Клецкага» бартэр – буйную партыю алкагольнай прадукцыі. А. Машэй у выніку стаў раз'язджаць на бліскучым джыпе.

Аднак судзяць старшыню ўсё ж не за стратную для гаспадаркі іншамарку. Следства выкрыла шматлікія парушэнні на вінзаводзе, складанне заведама несапраўдных дакументаў, хабар, атрыманы ў валюце. Старшыніха Ларыса Машэй абвінавачваецца ў буйным махлярстве. За турпуцёўку для сваіх дзяцей у элітны крымскі санаторый «Беларусь», які падпарадкоўваецца Кіраўніцтву справамі прэзідэнта, яна заплаціла па мінімуме і толькі таму, што наўмысна зменшыла ўзрост маладых Машэяў. На дармаўшчыну сям'я калгаснага кіраўніка спакушалася ва ўсім.

# Стандарт па ахове здароўя

Аксана ЯНОЎСКАЯ

*Айчынная медыцына хворая на нястачу грошай – гэты дыягназ вядомы ўсім. Патрабаванне аб абавязковым аказанні платных медыцынскіх паслуг успрынята неадназначна як самімі медыкамі, так і насельніцтвам. Сёння самае галоўнае пытанне: за што мы павінны плаціць, а за што – не, у прыватнасці, у паліклініках і бальніцах. Пра гэта – гутарка карэспандэнткі НАШАЙ СВАБОДЫ з начальнікам упраўлення лячэбна-прафілактычнай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Аляксандрам Цыбіным.*

**– Згодна з Канстытуцыяй, у нашай краіне абвешчана права на бясплатную медыцынскую дапамогу. У Законе «Аб ахове здароўя» таксама гаворыцца аб прыярытэце дзяржаўнай, значыць, бясплатнай медыцыны. На практыцы атрымоўваецца зусім іншае: пацыенту абавязкова прапануюць за што-небудзь заплаціць. Скажыце, ці вызначаны ўжо гарантаваны мінімум бясплатных медыцынскіх паслуг?**

– Такі мінімум вызначаны. У ім прадугледжаны нарматывы бюджэтнага фінансавання на аднаго жыхара; паслугі па аказанні стацыянарнай, амбулаторна-паліклінічнай і хуткай медыцынскай дапамогі, якая аказваецца ў дзяржаўных установах аховы здароўя; медыкаментознага, кадравага забеспячэння ў тых жа ўстановах; нормы харчавання, абмундзіравання і інвентару; нормы і нарматывы льготнага забеспячэння лекавымі сродкамі, вырабамі медыцынскага прызначэння, сродкамі рэабілітацыі і зубапратэзавання. Медыцынская дапамога дзецям да 18 гадоў аказваецца бясплатна. Прадугледжаныя заканадаўствам льготы ў сферы аховы здароўя для грамадзян, якія маюць сацыяльныя льготы, уключаны ў гарантаваны мінімум у поўным аб'ёме.

**– Аляксандр Кірылавіч, ці можаце вы агучыць лічбы: колькі грошай закладзена ў бюджэце на ахову здароўя аднаго жыхара нашай краіны?**

– У Законе «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2002 год» вызначаны мінімальны нарматыў бюджэтнай забяспечанасці выдаткаў на ахову здароўя на аднаго жыхара па краіне у памеры 110 220 рублёў і па бюджэтах абласцей і Мінска ў суме 84 620 рублёў, у тым ліку: па Брэсцкай вобласці – 83 540 рублёў, Віцебскай – 85 660, Гомельскай – 84 470, Гродзенскай – 83 490, Мінскай – 72 630, Магілёўскай – 81 330, гораду Мінску – 98 810 рублёў у год. На аснове мінімальных дзяржаўных сацыяльных стандартаў у сферы аховы здароўя ў абласцях, гарадах і раёнах распрацоўваюцца і зацвярджаюцца тэрытарыяльныя праграмы. Яны могуць прадугледжваць дадатковыя аб'ёмы і віды медыцынскай дапамогі ў параўнанні з гарантаваным мінімумам за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў і іншых крыніц фінансавання, якія не пярэчаць заканадаўству.

**– І на што гэтых грошай павінна хапіць?**

– На хуткую і неадкладную дапамогу пры хваробах, якія пагражаюць жыццю і здароўю грамадзяніна ці яго асяродку, выкліканых раптоўным захворваннем, абвастрэннем хранічнай хваробы, няшчаснымі выпадкамі, траўмамі і атручэннямі, ускладненнем цяжарнасці, пры родах. Амбулаторна-паліклінічная дапамога ўключае ў сябе правядзенне мерапрыемстваў па прафілактыцы, дыягностыцы і лячэнні захворванняў. На працягу году жыхар нашай краіны фактычна мае права на 12 бясплатных візітаў у паліклініку і адзін выклік доктара дадому. А далей – у залежнасці ад стану здароўя. Цяжка хворы чалавек у любым выпадку не застанецца без медыцынскай дапамогі. Стацыянарная дапамога будзе аказвацца пры вострых захворваннях і абвастрэннях хранічных хвароб, траўмах, пры планавай шпіталізацыі з мэтай правядзення лячэння, якое патрабуе кругласутачнага медыцынскага назірання, медыцынскай рэабілітацыі і ізаляцыі па медыцынскіх паказаннях. Гэта ж тычыцца медыцынскай дапамогі пры паталогіі цяжарнасці, родах і перапыненні цяжарнасці па медыцынскіх і сацыяльных паказаннях. Пры хуткай і стацыянарнай медыцынскай дапамозе прадугледжана забеспячэнне пацыента бясплатнымі лекамі. Тэрмін знаходжання хворага на бальнічным ложку вызначаны арыенціровачна ў 13 дзён. Але пры складаных хваробах ён можа быць перагледжаны. Вялікая ўвага будзе аддавацца медыцынскай дапамозе, якая аказваецца ў дзённых стацыянарах.

**– Ці праўда, што ў стацыянарах скараціліся выдаткі на харчаванне і гаспадарчыя патрэбы?**

– Выдаткі на харчаванне вызначаюцца з разліку сярэднясутачнага набору прадуктаў на аднаго чалавека, зацверджанага Міністэрствам аховы здароўя. Гэта ж тычыцца і гаспадарчага абсталявання і матэрыялаў. Тут усё залежыць ад рэгіёну: дзе ёсць магчымасць дадатковага фінансавання, там будуць і лепшыя ўмовы. І дарэчы, харчаванне, сервісныя паслугі – гэта якраз тое, за што можна смела браць грошы. Чалавек хоча знаходзіцца адзін у палаце – калі ласка, пры ўмове, што ён гатовы за гэта плаціць.



Фота В. Шлапакі

**– Аляксандр Кірылавіч, мы з вамі пагутарылі, так бы мовіць, пра агульныя прынцыпы. А цяпер давайце ўявім сабе, што я прыйшла ў сваю паліклініку па месцы жыхарства са скаргай на невялікае недамаганне. Артэрыяльны ціск мне будуць мераць за грошы?**

– Ні ў якім разе. Існуе «Пералік відаў медыцынскіх паслуг, якія аказваюцца бясплатна насельніцтву Рэспублікі Беларусь у дзяржаўных лячэбна-прафілактычных установах». У першым пункце гэтага дакумента гаворыцца пра дыягностыку. Яна ўключае ў сябе кансультацыі спецыялістаў па кіраванні ўчастковага тэрапеўта ці доктара агульнай практыкі, а таксама клінічныя, інструментальныя і лабараторныя метады даследавання, метады прамянёвай дыягностыкі і псіхалагічныя абследаванні па накіраванні спецыялістаў. Іншая рэч, што калі вы не пажадаеце праходзіць даследаванне праз рэнтген, то будзеце вымушаны плаціць за ультрагукавое даследаванне. У той жа час ёсць і будуць выпадкі, калі не толькі адносна дарагі ультрагук зробяць бясплатна, але і вельмі дарагое абследаванне на камп'ютэрным тамографе.

**– Што яшчэ з першачарговай дапамогі ўключана ў пералік?**

– Стаматалагічная дапамога, акрамя відаў стаматалагічных паслуг, якія адносяцца да платных згодна з заканадаўствам. Прафілактычныя захады ў адносінах да прыроджаных парокаў развіцця, анкалагічных хвароб, інфекцый, якія перадаюцца палавым шляхам, захворванняў малочных і шчытападобнай залоз, сухот, захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы, фармавання здаровага ладу жыцця. Вакцынапрафілактыка таксама праводзіцца бясплатна.

**– Аляксандр Кірылавіч, вось я прыйшла ў паліклініку. А там мне кажуць: плаціце, тое, што вам трэба, робіцца толькі на платнай аснове, у нас загад. Што рабіць?**

– А можна, я спытаю: што вы будзеце рабіць?

**– Я буду патрабаваць, каб мне паказалі дакумент, у якім вызначана, за што я павінна плаціць.**

– Тое самае раю рабіць усім чытачам.

**– Думаю, вы са мной пагодзіцеся, што адначасовае аказанне платных і бясплатных паслуг у выпадку недастатковай інфармаванасці пацыентаў можа быць падставай для медыкаў навязваць платныя паслугі: план жа па іх даведзены, трэба выконваць.**

– Вымушаны пагадзіцца. Па мінімальным сацыяльным стандарце і пераліку паслуг яшчэ ёсць пытанні. Па вялікім рахунку пакуль гэта дакументы, так бы мовіць, для службовага карыстання. Як і было даручана, наша міністэрства распрацавала іх. Але трэба разумець, што ахова здароўя – толькі адна з галін народнай гаспадаркі. Таму мы чакаем згоды на такі стандарт Міністэрства эканомікі і зацверджання яго ўрадам. Тады гэта будзе паўнавартасны дакумент, абавязковы для выканання. Для эфектыўнай працы медыкаў недастаткова толькі іх прафесійных ведаў і чалавечага спачування. Каб эфектыўна лячыць, патрэбны грошы. І не віртуальныя, а рэальныя і ў вызначаны тэрмін.

ШКОЛЬНЫЯ КАНІКУЛЫ

## Адпачне толькі кожны чацвёрты

**300 000 «чарнобыльскіх» дзяцей апынуліся без клопату дзяржавы**

Найгоршая за апошнія гады статыстыка адлюстроўвае становішча з летнім аздараўленнем беларускіх дзяцей. Ужо на «старце» школьных канікулаў не адкрыліся з-за дрэнных умоваў для пражывання і харчавання яшчэ 11 лагераў з леташніх 295. Выехаць на аздараўленне ў «чыстыя зоны» маюць мажлівасць толькі каля 100 тысячаў дзяцей з забруджаных раёнаў Беларусі. Трое з кожных чатырох тутэйшых школьнікаў гэтага пазбаўлены.

Як ні крыўдна, але берагі на цёплых акваторыях замежжа – не для дзяцей з сярэднестатыстычных сем'яў Беларусі. Турфірмы прапаноўваюць Балгарыю, Славакію, Венгрыю, Чэхію ў межах 250–300 даляраў за 15–20 дзён адпачынку. За тыдзень экскурсіі па Польшчы трэба заплаціць 40–85 даляраў. Аўстрыя пацягне ад 260 даляраў. Турпуцёўку ў Парыж з яго феерычным Дыснэйлэндам можна замовіць за 250 даляраў. Разлічваць на Германію, Англію альбо Грэцыю дазваляе сума ў 400 даляраў. Не танней абыдзецца адпачынак у Міжнародным дзіцячым цэнтры *«Артек»* і Усерасійскім дзіцячым аздараўленчым цэнтры *«Орленок»* – 450 і 530 даляраў адпаведна.

Найлепшы ў Беларусі Нацыянальны дзіцячы аздараўленчы лагер «Зубраня» на возеры Нарач рэалізуе праз вольны продаж толькі 10% пуцёвак коштам 250 тысячаў рублёў. Астатнія размяркоўваюцца па разнарадцы, і, як лічыцца, іх атрымліваюць пераможцы і фіналісты творчых конкурсаў, дзеці-інваліды, юныя кіраўнікі ў школах і актывісты грамадскіх арганізацый. А ў іншыя лагеры трапляе абсалютная бальшыня школьнікаў – 231 тысяча. Поўны пансіён тут каштуе 180 тысяч рублёў (100 даляраў); згодна з пастановай ураду, 110 тысяч – гэта датацыйныя сродкі, а астатняе даплачваюць бацькі. Каб менш было скаргаў на дарагоўлю, бюджэтным арганізацыям і арганізацыям АПК рэкамендавана часткова кампенсаваць сваім працаўнікам выдаткі на набыццё дзіцячых пуцёвак у памеры да 55 тысяч рублёў з сродкаў, атрыманых ад прыбытковай дзейнасці.

У Рэспубліканскім цэнтры па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва без асаблівага ўздыму гавораць пра пачатак сезону адпачынку і зусім няўпэўнена – пра ягоны працяг. На заключную змену сродкаў можа не хапіць. А адзінае з прыемнага, бадай, тое, што альтэрнатыву адпачынку ў збяднелых установах дзяржбюджэту пачалі шукаць грамадскія арганізацыі, і найперш Беларускі дзіцячы фонд. Сёлета доўжыцца яго эксперымент па размяшчэнні выхаванцаў дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў у сем'ях спагадлівых людзей. Адмыслоўцы фонду ўкаранілі даволі простую схему ўзаемаабавязанняў сям'і, школы і аддзелу адукацыі, каб прапанова ўзяць на летнія вакацыі інтэрнацкае дзіця была ўзаконена. Патрэбна заява, медычная даведка і даведка аб прыбытках. На дзіця ва ўзросце да 17 гадоў належыць грашовая дапамога прыкладна 2 400 рублёў у дзень, якую можна атрымаць у аддзеле адукацыі часткамі альбо адразу. Такім парадкам у 2001 годзе 4 138 выхаванцаў школ-інтэрнатаў і дзіцячых дамоў былі ўладкаваныя на адпачынак у сем'і. Сёлета дабрачынная акцыя абяцае быць больш маштабнай.

Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ

# Гуманітарый Лявон Баршчэўскі

**– Сёлета ліцэй, дзе вы працуеце, адзначыць сваё дзесяцігоддзе. Ці змяніліся вашыя выхаванцы за апошні час?**

– Вучні і раней, і цяпер былі розныя. Ёсць тыя, якія прыйшлі рэалізоўваць выключна свае эгаістычныя памкненні – паступіць у ВНУ, зрабіць кар'еру і г. д. Ёсць тыя, якія маюць адчуванне, што яны не проста ліцэісты, а носьбіты культуры, і што за яе захаванне і памнажэнне яны нясуць адказнасць. Я б не сказаў, што працэнт адных і другіх істотна змяніўся за апошнія гады, як гэта ні парадаксальна.

Мы, на жаль, прымаем вучняў ужо сфармаваных, калі ім па 13–14 гадоў. І калі ў іхніх сем'ях не было правільнага стаўлення да культуры, цікаўнасці, не было выхавання ў нейкім адмысловым культурным кантэксце, то мы, на жаль, істотна памяняць сітуацыю не можам. Таму чым больш да нас будзе прыходзіць дзяцей са свядомых беларускіх сем'яў, тым лепш мы сябе будзем пачуваць і зробім усё для іх, каб яны не згубіліся далей у жыцці.

Мы са свайго боку робім усё, што можам, стараемся стварыць для іх вучобы тыя ўмовы, якіх яны заслугоўваюць, але мы не можам за іх самарэалізавацца. Самарэалізавацца могуць толькі яны самі.

**– Ліцэй па сваёй сістэме, па спосабе выкладання можа стаць правобразам новай беларускай школы?**

– Я б сказаў, што гэта вобраз еўрапейскай школы. Баюся, што гэта адзіная такая ўстанова ў сістэме сучаснай беларускай адукацыі. І гэта не голыя словы, бо апытанні, даследаванні, якія праводзяць навукоўцы, кажуць: вучні тут упершыню адчулі, што да іх ставяцца як да людзей, а ў савецкай школе да іх ставяцца як да натоўпу. У гэтым і розніца. Беларуская мова – само сабой, але гэта нават і не галоўнае ў дадзенай сітуацыі. Таму правільна казаць, што наш Ліцэй – гэта правобраз несавецкай школы. А несавецкая школа – яна будзе непазбежна беларускай, бо культурныя людзі заўсёды ўспомняць, што яны ўсё ж прадстаўнікі беларускай культуры, і зацікавяцца, і будуць імкнуцца яе вывучаць і памнажаць. Адно залежыць ад другога, чым яны хутчэй стануць несавецкімі, тым яны хутчэй стануць беларускімі.

*– На чэмпіянаце свету за каго «хварэеце»?*
*– Традыцыйна, з 66 году гляджу чэмпіянаты свету і «хварэю» за Германію. Мабыць, і на гэтым чэмпіянаце буду «хварэць» за Германію, хоць і не ўпэўнены, што яны пераможуць*

**– Ці змяніўся ваш стыль працы ў сувязі з развіццём тэхнікі і сродкаў камунікацыі? Зараз, напрыклад, не дзіва сустрэць выкладчыка з ноўтбукам...**

– Ну натуральна, праца змянілася. Мабільнага тэлефону ў мяне няма, але камп'ютэр ёсць – на працы і дома. Я яго не купляў, мне зрабілі яго сябры, сабралі з запчастак. Я працую з камп'ютэрам. Нічога тут такога складанага няма. Навучыўся. Карыстаюся інтэрнэтам, гляджу часам навіны, каб быць у курсе. Гэта мяне закранула, але не скажу, што вельмі. Рэдактарскай працы заўсёды многа.

**– Вядома, што ў знак пратэсту супраць змены рэдактара вы забралі з часопісу «Крыніца» свае пераклады, што рыхталіся да друку.**

– Сама «Крыніца», у тым абліччы, у якім яна выходзіла з другой паловы 1994 г., – гэта ў нейкай ступені і рэалізацыя маёй ідэі. Я ўдзельнічаў на падрыхтоўчым этапе, у нарадах, на якіх абмяркоўвалася канцэпцыя будучага часопісу. Вядома, рухавіком гэтага праекту тады быў Валянцін Акудовіч, і гэта ягонае бачанне рэалізавалася. Але і я спрычыніўся да стварэння канцэпцыі «Крыніцы».

Гэта першы культуралагічна-літаратурны часопіс за ўсю гісторыю Беларусі. Каля яго вытокаў стаялі В. Акудовіч, А. Разанаў, Ул. Арлоў, Л. Дранько-Майсюк. З гэтымі асобамі прызначанаму рэдактару спадару Дашкевічу не цягацца. Ён павінен быў адмовіцца. Хай бы закрылі часопіс, але спрычыніцца да яго занядбання – на гэта ён не меў права, як не меў права любы другі чалавек кіраваць дзецішчам іншага.

**– Кажуць, што гэтыя выданні патрабавалі зменаў...**

– Мяне проста абурае заява Таісы Бондар, рэдактаркі «Всемирной литературы», якую я прачытаў у ЛіМе. Яна сказала, што рэдактары заседзеліся на месцы і іх трэба мяняць. Гэта няпраўда, бо Ала Канапелька на рэдактара «Крыніцы»



**Лявон Баршчэўскі – кандыдат філалагічных навук, перакладчык, намеснік дырэктара Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа, чалавек па-еўрапейску адукаваны і дасведчаны ў складаных пытаннях сучаснага мовазнаўства. Ён – знаны грамадскі дзеяч, выдатны педагог і перакладчык**

была зацверджана менш за год таму. Гэта ўсё паказвае ўзровень гэтых людзей, іхняе імкненне рэалізаваць сваю нянавісць да ўсяго беларускага хоць так: не ўмее нічога стварыць, дык хоць задушыць.

В. Дашкевіч, наколькі я ведаю, вельмі пасьпяхова заваліў працу з газетай Акадэміі навук, якая пры ім, мякка кажучы, не здабыла чытача. Зараз ён узяўся заваліць адзіны беларускі часопіс, які ставіў перад сабой задачу ў поўным аб'ёме паказаць нашу культуру ў кантэксце сусветнай. «Полымя» таксама імкнулася да гэтага, але найбольш рэалізавала гэтую ідэю «Крыніца».

Ну і ўжо не варта казаць пра тое, што ўсё прызначэнне і стварэнне гэтага холдынгу пярэчыць існуючаму заканадаўству, законам, нават тым, якія былі ратыфікаваныя так званай «палатай». Згоды Саюзу пісьменнікаў, які ёсць сузаснавальнікам гэтых часопісаў, ці нейкага рашэння з'езду ці рады на такое рэфармаванне не было. Такім чынам, гэта – крадзеж, які трэба называць сваім уласным іменем. Таму я, вядома, не магу там друкавацца.

**– Як вы пракаментуеце заявы былых рэдактараў аб стварэнні новых часопісаў?**

– Я думаю, што часопісы, незалежныя ад дзяржаўнага фінансавання, вядома, павінны былі быць створаны пяць-сем год таму, але ў тым, што гэтага не адбылося, віна не толькі рэдактараў. Я ведаю, што яны шукалі фінансаванне.

Гэта толькі крок у ланцугу іншых дзеянняў. У 1996 г. быў без усякіх падставаў выгнаны з Беларусі Фонд Сораса, былі знішчаныя магчымасці дзейнасці іншых фундацыяў, якія падтрымліваюць такія праграмы. Дзяржава паабяцала, што яна ўзамен за гэта будзе фінансаваць сама. Потым прайшло пару гадоў, і дзяржава адмовілася. Такім чынам было здзейсненае злачынства, якое ўжо называецца падлогам на мове Крымінальнага кодэксу. Службовы падлог.

Можна вінаваціць рэдактараў, бо яны маглі больш актыўна займацца пошукам сродкаў, ведаючы, што рана ці позна ўсё так скончыцца. Але тут трэба не шукаць вінаватых, а адраджаць і аднаўляць гэтыя праекты. Я ведаю, што ў Алеся Разанава, калі яшчэ толькі стваралася «Крыніца», была ідэя аднавіць часопіс «Узвышша», які выходзіў у 20-я гг. Ён меў падобныя мэты, як «Крыніца» і «Полымя». На маю думку, гэтая ідэя жывучая, і такія выданні могуць адрадзіцца. Сродкі на гэта знайсці можна, і нашыя лепшыя літаратары будуць лічыць за гонар друкавацца ў такіх часопісах, і там будзе сапраўдная канкурэнцыя.

Сённяшнія ж рэдактары апынуцца перад сітуацыяй, калі прыйдзецца друкаваць толькі заведамых графаманаў альбо даволі адыёзныя і сумнеўныя з эстэтычнага пункту погляду расійскія творы, пра што ўжо спн. Чайка прагаварылася ў сваім інтэрв'ю.

Таму ўся гэтая задума выльецца ў адзін пшык, і гэтыя часопісы проста загінуць. У вельмі кароткі тэрмін.

**– Агульнавядомы ваш талент у вывучэнні замежных моваў. Ці вашыя дзеці падзялілі гэтае захапленне?**

– Старэйшая дачка вучыцца ў аспірантуры пры БДУ на кафедры сучаснай беларускай літаратуры. Яна даследуе беларускую прозу 90-х гг., у тым ліку і нетрадыцыйныя жанры. Сярэдняя дачка яшчэ вучыцца ў ліцэі і рана казаць пра яе будучыню, але яна добра ведае англійскую мову. Хутчэй за ўсё, будзе па гэтым кірунку вучыцца і далей. Можна сказаць, што гэта блізка да маіх схільнасцяў. Ну, а малодшая толькі сёлета пойдзе ў школу, як там будзе – паглядзім.

**– А вашая жонка?**

– Яна па прафесіі матэматык, але мы шмат у чым падобныя, у схільнасцях, напрыклад, і часта мы бываем зацікаўленыя адным і тым жа.

**– Вы былі адным з самых заўважных беларускіх палітыкаў, аднак у апошні час вашае імя ўсё радзей згадваецца ў звязку з палітычнымі падзеямі. Чаму так?**

– Гэта звязана толькі з тым, што час непрафесійных палітыкаў мінуў, а прыйшоў час тых людзей, якія 24 гадзіны ў суткі могуць аддаваць палітыцы. Я не магу сабе гэтага дазволіць, бо ў мяне ёсць тыя сферы, дзе большая мая цікавасць, дзе я больш працую.

Што да палітыкі, дык я думаю: пакуль нашае грамадства не пачне разумець, што палітыкаў трэба падтрымліваць, што іх трэба фінансаваць, што іх трэба выхоўваць, у нас нічога не атрымаецца. Гэтаму толькі грамадства можа навучыцца. Вельмі лёгка крытыкаваць сённяшніх палітыкаў. Але дзякуй Богу, што яны ёсць, бо крыніцы іх падтрымкі альбо перакрытыя, альбо вельмі мізэрныя. У нашай краіне няма прыватнай уласнасці, незалежнай ад дзяржавы. Якіх жа якасных палітыкаў мы хочам мець у такой сітуацыі? Добра, што яны заяўляюць пра сябе. Пакуль мы не выхаваем «палітычны клан», я не баюся гэтага слова, мы не будзем сапраўднай незалежнай дзяржавай. Масква ўкладае ў сваіх палітыкаў вялізарныя грошы. А ў нас гэта так, «пасля работы», пасля асноўнага занятку. Вядома, такія будуць прайграваць першым. І гэта галоўная праблема.

На пачатку 90-х гг. можна было сумяшчаць палітыку з нейкай іншай дзейнасцю. Сёння трэба быць прафесійным. Я выбраў другую дарогу: адукацыя, педагогіка, пераклад, навуковая праца, лекцыі і г. д. Гэта тое, што я магу на сённяшні дзень. На астатняе ў мяне няма часу.

**– Якія спосабы адпачынку вам найбольш блізкія?**

– Змена занятку. Як такога адпачынку ў мяне няма. Я не магу ляжаць каля рэчкі і нічога не рабіць. Нешта раблю заўсёды, а змена віду працы і ёсць адпачынкам. У мяне ёсць педагогіка, пераклад, часам нейкія палітычныя справы. То адно, то другое, то трэцяе – гэтага хапае. Калі летам паеду ў родны Полацк, звычайна я там некалькі тыдняў праводжу, то таксама бяру з сабой працу, прынамсі, чытаю. Спецыфіка гуманітарыя ў тым і заключаецца, каб увесь час успрымаць інфармацыю.

**– А на футбол часу хапае?**

– Кожную пятніцу мы гуляем у футбол, з 6 да 8 вечара. У асноўным збіраюцца маладыя паэты, выкладчыкі нашага ліцэю. У нас дзве стабільныя каманды. 20 чэрвеня мы традыцыйна гуляем з выпускнікамі ліцэю, пасля таго, як яны здаюць экзамены. На футбол раз у тыдзень часу хапае.

**Інтэрв'ю брала**
**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Адкрыты ліст

## Міністру адукацыі Беларусі П.І. Брыгадзіну

Пётр Іванавіч, звяртаюся да Вас у другі раз.

Некалькі месяцаў таму я прасіў дапамагчы з адкрыццём беларускамоўнага класа пры СШ № 218 г. Мінску. У пачатку 2002 году я атрымаў ад начальніцы Маскоўскага раённага аддзелу адукацыі Т.У.Злобінай адказ аб тым, што ў СШ № 218 у 2002 годзе *«запланировано открытие подготовительного класса с белорусским языком обучения. Администрацией школы проводится пропагандистская работа среди родителей будущих учащихся подготовительного класса в этом направлении»*.

Рускамоўная адпіска з раённага аддзелу адукацыі не абнадзейвае, што беларускамоўны клас сапраўды будзе, бо дэклараваная *«пропагандистская работа»* ў нашым раёне не праводзіцца. Інакш бы працу па стварэнні беларускамоўнага класа для майго сына мне не даводзілася б браць на сябе і распачынаць за некалькі гадоў.

Яшчэ пры канцы 2000 году праз вялікія намаганні і мае звароты да чыноўнікаў гарадскога аддзелу адукацыі адміністрацыяй школы № 218 мне былі выдадзены адрасы дзетак, што ў 2001 годзе павінны былі пайсці ў «нулёўку». Я тады абышоў 87 сем'яў. З іх у 23-х бацькі былі не супраць беларускамоўнага класа. Маю сёння спісы тых дзетак. У пачатку лютага 2001 году я наведаў першы бацькоўскі сход, на якім уся інфармацыя аб магчымасці адкрыцця беларускамоўнага класа падавалася завучкай малодшых класаў Новікавай Ларысай Васільеўнай па-руску і не насіла агітацыйнага характару за, хутчэй – супраць. Даючы мне слова, яна прадставіла мяне: *«Среди нас присутствует очень активный родитель...»* Па маім выступе прылюдна выказалася: *«Мне было бы легче, если бы Вы своего ребёнка повели в другую школу»*. Вось яна, антыбеларуская палітыка ў жыцці, калі ў карэннага жыхара дзе спаквала, дзе гвалтоўна адбіраецца Бацькаўшчына, нахабна робіцца захады па асіміляцыі тых, каму яшчэ баліць па мове.

У выніку ў 2001 годзе беларускамоўны клас пры СШ № 218 адчынены не быў.

Ад лета 2001 году я пачаў весці афіцыйную перапіску з усёй вертыкаллю сістэмы адукацыі, у тым ліку ліставаў і да Вас, Пётр Іванавіч.




Зноў дамогся, каб мне далі адрасы дзетак. Хаджу па кватэрах, агітую бацькоў. Не аднойчы меў размову з адміністрацыяй СШ № 218. Падчас атрымання адрасоў я ўпершыню прывёў сына да завучкі малодшых класаў Новікавай Л. В. Мой сын звярнуўся да яе: «Цёця, я хачу вучыцца па-беларуску!» Адказ Ларысы Васільеўны: *«А ты что, русского языка не понимаешь?»*

Сёлета, 12 сакавіка, Ларыса Васільеўна зладзіла бацькоўскі сход, на які прыйшлі бацькі не болей як 10 дзетак (з 96 паводле спісу адрасоў). Інфармацыя пра беларускамоўны клас зноў падавалася на рускай мове. На заўвагі некалькі разоў адказвала: *«Вы меня никогда не заставите говорить по-белорусски»* і ўзгадвала, што яна заслужаная настаўніца і мае ўзнагароды. Па тым, як запрошаная мной на сход дацэнтка-філолаг падала інфармацыю пра буквар А.К.Клышкі, што гэты буквар заняў 1-е месца на конкурсе букварроў на тэрыторыі СНД, завучка сказала: *«Да, букварь действительно очень хороший, но он издан и в русскоязычном варианте»*. І гэта завецца *«пропагандистской работой среди родителей»*. Падчас сходу бацькі траіх дзетак забралі раней пададзеныя заявы ў беларускі клас. Завучка нават не паспрабавала гэтых бацькоў адгаварыць гэта рабіць – і не дзіва.

Па сходзе я падышоў да Новікавай Л. В. і ў прысутнасці некалькіх чалавек сказаў: «Ларыса Васільеўна, я патрабую, каб Вы з маім сынам размаўлялі па-беларуску, каб ён чуў ад усіх педагогаў беларускую мову, каб у выніку – мовы не саромеўся, а ганарыўся ёю». Ларыса Васільеўна зноў цвёрда адмовілася. Я нагадаў, што кожны настаўнік, тым больш адміністратар, абавязаны валодаць беларускай мовай, інакш ён не адпавядае сваёй пасадзе. Нагадаў пра Закон аб мовах, пра Закон аб правах дзіцяці. Спадарыня ж Новікава раззлавалася, сказала, што працоўны дзень у яе скончыўся, і, ігнаруючы размову, уцякла з актавай залі.

Усё вышэй узгаданае пераканала мяне, што найбольшы супраціў справе беларускага школьніцтва праводзяць асобныя працаўнікі сістэмы адукацыі, такія, як Новікава Л. В., якая выразна дэманструе цэлы спектр супярэчнасцяў, калі адміністратарцы не хочацца змагацца з уласным непрыняццем беларускай мовы, але паводле службы яна вымушана рабіць выгляд, што функцыянальна нешта па стварэнні беларускага класа выконваецца.

Спадар Міністр, прашу выступіць гарантам паўнавартаснай беларускамоўнай адукацыі майго сына і забяспечыць камфортны псіхалагічны беларускамоўны клімат у СШ № 218.

**Кастусь КАШЭЛЬ, жыхар мінскага мікраraёну «Малінаўка-8»**

***P. S.*** 30.05.2002 у СШ № 218 адбыўся бацькоўскі сход, на якім паведамілі, што ў беларускамоўны клас засталося пададзеных 8 заяў. Гэткім чынам, засведчваю, што мой вынік – **«плюс 16 заяў»**, вынік працы ўсёй сістэмы дзяржаўнай і школьнай «вертыкалі» па фармаванні ў СШ № 218 беларускамоўнага класа – **«мінус 8 заяў»**.

**Копія адкрытага ліста накіравана ў *UNESCO*.**

# Марш навуковай дурасці

**Прыгадайце, якая перабольшаная вага прыпісвалася не так даўно тэорыі псіхааналізу.**

Зігмунд Фройд вучыў, што ніводны ўчынак у штодзённым жыцці не бывае пусты і бессэнсоўны. Ад тых дат тэарэтычныя схемы пачалі набываць маштабнасць, выходзячы па-за межы разумнага. Псіхааналіз разросся ў вялізную лагічную схему-страхапуд. Палітыка, сацыялогія, гісторыя ці медыцына – усе навукі сталі зернем у псіхааналітычным млыне. Нават тэорыі Чарльза Дарвіна зазналі сур'ёзныя скажэнні – ад рук нібыта прыхільнікаў ягонага вучэння. Цяпер ужо кожны ведае, што тэорыя эвалюцыі выкарыстоўвалася дзеля апраўдання капіталістычнай несправядлівасці. Беззаконні і злачынствы спрытна выдаваліся за няўхільны, праўджаны навукаю закон прыроды – «закон натуральнага адбору».

Кожны раз, калі ўзнікае новая магутная навуковая тэорыя, яе абавязкова пачынаюць выкарыстоўваць, каб увесці нас у аблуду. У наш час чарга дайшла да малекулярнай генетыкі. Тэмперамент, атлусценне, сардэчна-сасудзістыя захворванні, разумовыя здольнасці, гомасексуалізм або крымінальныя паводзіны – усё гэта, як сцвярджаюць, закладзена ў генах.

Выдатныя навукоўцы цвердзяць, што ўвесь наш лёс распісаны на малекуле ДНК, і папулярызатары навукі радасным хорам заяўляюць: маўляў, людзі – істоты «запраграмаваныя». Геном змяшчае поўны набор інструкцыяў, і таму яго называюць чашаю Граала, бібліяй, кнігаю чалавека. Гаворыцца, што калі яго цалкам расшыфраваць, то сутнасць людской прыроды будзе зразумета да канца.

Здаровы гуманізм, аднак, накладае абмежаванні на гэтыя цверджанні. Ніякая навука не можа поўнасцю выказаць людскую прыроду; усе навукі, нават самыя дакладныя, – толькі частковыя крокі ў гэтым напрамку. Несумненна, Чалавек – нешта большае, чым крымінальныя гены. Чалавек – і ягоная мінуўшчына, і цяперашчына, і будучыня. У рэчаіснасці Чалавек – нешта большае за самога сябе, бо пэўныя людскія якасці могуць поўнасцю раскрыцца толькі ў грамадстве. Чалавек, выхаваны ў поўнай ізаляцыі (або жывёламі, як гэта было з напаўлегендарнымі «дзікімі дзецьмі», якіх усынаўлялі ваўкі), ніколі не стане чалавекам напоўніцу.

Пакуль навукоўцы, паглынутыя сваімі даследаваннямі і зачараваныя тэхнікаю, забываюцца на гэтае мудрае вучэнне гуманітарных навук, патуль яны будуць ахвярамі сваёй няўмольнай адплаты – прадузятасці.

**Ф.ГАНСАЛЕС-КРУСІ**
**© Project Syndicate**

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 14 чэрвеня

**1777.** На Кантынентальным кангрэсе ў Філадэльфіі зацвярджаецца нацыянальны сцяг ЗША з 13 белымі зоркамі на сінім фоне і 13 чырвона-белымі палосамі – паводле тагачаснай колькасці штатаў. Сёння палосаў засталося столькі ж, а вось зорак са з'яўленнем новых штатаў дабавілася.

**1912.** У французскім Ліёне мясцовыя ўлады забараняюць дэманстрацыю любых фільмаў, дзе паказваюцца крымінальныя злачынствы.

**1982.** Аргенцінскія войскі здаліся ў Порт-Стэнлі. Так скончылася Фалклендская вайна, у якой загінулі 255 англічан і 652 аргенцінцы.

**1992.** Большасць насельніцтва Літвы на рэферэндуме галасуе за вывад да канца году з тэрыторыі краіны расійскіх войскаў.

### 15 чэрвеня

**1752.** Амерыканскі вучоны Бенджамін Франклін, праводзячы доследы з паветраным змеем, даказвае, што маланка ўяўляе сабой электрычны разрад.

**1782.** Карабель «Грасвенар» выпраўляецца з Цэйлону да Англіі. На борце, апрача 150 пасажыраў і экіпажу, было багата золата ды іншых каштоўнасцяў. У жніўні таго ж году карабель налятае на скалы. Каштоўнасці патанулі, з людзей выратавалася толькі 18 чалавек.

**1882.** Нарадзіўся Іён Антанеску, румынскі генерал, фашыстоўскі дыктатар Румыніі з 1940 па 1944 гады. У ягоны гонар у 1941 годзе Адэса была пераназвана ў Антанеску.

**1982.** На чэмпіянаце свету па футболе зборная Венгрыі выйграе ў Сальвадора з лікам 10:1. Гэта рэкорд выніковасці на мундыялях.

### 16 чэрвеня

**1937.** Па патрабаванні камуністаў у Іспаніі забараняюць трацкісцкую Партыю аб'яднаных марксістаў, да якой, дарэчы, належаў вядомы пісьменнік Джордж Оруэл, а ейнага лідэра арыштоўваюць, і ён бясследна знікае.

**1967.** Пяцёра парашутыстаў-інструктараў ваенна-паветраных сілаў Вялікабрытаніі робяць зацяжны скачок з вышыні амаль 12 тысяч метраў. Гэта рэкордная вышыня для парашутыстаў.

### 17 чэрвеня

**1882.** Нарадзіўся кампазітар Ігар Стравінскі, аўтар балетаў «Жар-птушка» і «Вясна свяшчэнная». Па паходжанні ён рускі, доўга жыў у Швейцарыі і Францыі, памёр у ЗША, пахаваны ў Італіі.

### 18 чэрвеня

**1822.** У лонданскім Гайд-парку ўзводзіцца першая скульптура цалкам аголенага чалавека. Гэта быў Ахіл. Пасля шматлікіх абурэнняў мінакоў ягоную постаць аздобілі фігавым лістом.

**1877.** Нарадзіўся амерыканскі мастак Джэймс Флэг, які намаляваў падчас Першай сусветнай вайны знакаміты плакат з дзядзькам Сэмам «*I Want You*». У грамадзянскую вайну ў Расіі з'явіўся плакат з чырвонаармейцам «Ты запісаўся дабравольцам?», які кампазіцыйна паўтарае плакат Флэга.

**1942.** Нарадзіўся «бітл» Пол Макартні.

### 19 чэрвеня

**1897.** Памёр Чарльз Байкот, капітан брытанскай арміі, які вельмі няўдала кіраваў сваім маёнткам. Калі ў 1880 годзе здарыўся неўраджай, ён запатрабаваў ад арандатараў сваёй зямлі без адтэрміновак заплаціць яму рэнту ці грашыма, ці маёмасцю. У адказ фермеры згаварыліся і кінулі працу ў гаспадарцы Байкота. У выніку ягоная сям'я зажабрачыла. Прозвішча Байкот стала гаваркім і ўвайшло ў многія мовы свету.

**1932.** Ад буйнога граду, які выпаў у Кітаі, загінулі 200 чалавек.

**1947.** Нарадзіўся індыйскі пісьменнік Ахмед Салман Рушдзі. Пасля выхаду ў свет ягонага рамана «Сатанінскія вершы», дзе пісьменнік вольна інтэрпрэтуе тэксты з Карану, многія мусульмане палічылі сябе абражанымі. А іранскія ўлады нават заклікалі забіць Рушдзі. Цяпер пісьменнік увесь час мусіць хавацца ад мажлівых тэрарыстаў.

### 20 чэрвеня

**1597.** Памёр у веку 47 гадоў галандскі мараход Вілем Баранц. Гэта здарылася падчас палярнай экспедыцыі, калі ягоны карабель быў заціснуты льдамі. Галандцы былі вымушаны на дзвюх лодках выпраўляцца назад. Прычынай смерці Баранца стала звычайная для маракоў хвароба – цынга. У гонар Баранца названае цэлае мора.

**1997.** У Аўстраліі Ота Акрон трымае на канцы цягам 15 секунд два самалёты, якія ўзлятаюць у розных кірунках.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Астралагічны прагноз

**ад Веранікі Кудраўцавай на 14 – 20 чэрвеня**

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.*


На пачатку тыдня ёсць верагоднасць атрымаць неправераную або спакуслівую інфармацыю, а праз гэта – памылковыя меркаванні, нерэальныя планы. У другой палове тыдня вам добра «ідзе карта», можна як мае быць наладзіць стасункі паміж братамі і сёстрамі, сярод найбліжэйшай радні.


ЦЯЛЕЦ. На самым пачатку тыдня пажадана не спакушацца таемнымі і лёгкімі спосабамі атрымання грошай. Нават сваякі ненадзейныя. Чым больш незвычайны і авантурны метад дасягнення мэты ў чацвер, тым больш верагодны станоўчы вынік. Рызыкуйце, гуляйце, выяўляйце пачуццё гумару – яно ж аб'ядноўвае людзей – і не забывайце пра матэрыяльную ўзнагароду.


БЛІЗНЯТЫ. Калі нехта хоча паведаміць кепскую, але аб'ектыўную вестку, не шакуючы суразмоўцу, то ў першыя два дні тыдня магчыма зрабіць гэта як наймякчэй. Трэба быць асцеражнейшым з купляю прыгожых рэчаў, адзення, якія спадабаюцца з першага погляду, ці з набыццём пуцёўкі на адпачынак.


РАК. Старайцеся трымаць грошы пры сабе і не раскідаць іх на ўсялякую драбязу да аўторка. У другой палове тыдня, каб адчуць, што робіце вялікія поспехі, някепска было б прызначаць болей спатканняў як у прыватным жыцці, так і дзеля вырашэння гаспадарчых і дзелавых пытанняў.


ЛЕЎ. Пасярод тыдня даецца шанец праявіць талент нефармальнага лідэра, уменне выклікаць да сябе прыхільнасць і атрымаць з гэтага дывідэнды ўсім на карысць. На фоне эмацыйнага ўздыму ад кантактаў з вамі можна ў другой палове тыдня вельмі хутка і эфектыўна вырашаць праблемы.


ПАННА. На працы зноўку даводзіцца займацца «работай над памылкамі». Пачатак тыдня пасуе, каб пазбавіцца ад старызны, вынесці непатрэбшчыну на сметнік. На працы могуць увасобіцца ў жыццё самыя авантурныя сюжэты.


Прэзентуйце свае геніяльныя ідэі ў чацвер. Чым болей вы «фантануеце» азарэннямі і ідэямі, тым большая верагоднасць, што адкрыюцца незвычайныя, містычныя здольнасці, заслона таямніцы, адбудуцца творчыя перамены. Другая палова тыдня – выдатны перыяд для навучання.


СКАРПІЁН. У пятніцу давядзецца дзівіцца сітуацыям «дэжа вю», якія вы нібыта прыгадваеце ў агульных рысах. Гэта не сон, а замацаванне пройдзенага, прычым даволі прыемнае. У другой палове тыдня хуткая арыентацыя ў экстрэмальных сітуацыях павышае ваш прафесійны рэйтынг.


СТРАЛЕЦ. Падманам лагодных словаў вас не павінны пазбавіць розуму ад самага пачатку тыдня. Не варта раскідацца грашыма направа і налева. Нехта не праміне скарыстаць з вашае шчодрасці або ўжыць мяккі шантаж. Каб зрабіць уражанне і дасягнуць фенаменальнага поспеху, трэба пасярод тыдня быць арыгінальным.


КАЗЯРОГ. Намячаецца атака знаёмых, партнёраў 14 чэрвеня, якая прадугледжвае растрату вашых фізічных сілаў або фінансавы ўдзел. Калі вы «закруцілі» невялікую справу каля месяца назад, то ў другой палове тыдня атрымліваеце найлепшы вынік з магчымых.


ВАДАЛІЎ. На самым пачатку тыдня нехта распускае плёткі або спрабуе справакаваць вас нейкаю драбніцаю, каб «падмачыць рэпутацыю». У другой палове тыдня перспектыву маюць камандзіроўкі дзеля дасягнення матэрыяльнага становішча, заключэнне саюзаў і ўтварэнне аб'яднанняў.


РЫБЫ. Зноўку вы вяртаецеся да знаёмых медычных дыягназаў, замацоўваеце вынік лячэння і маеце магчымасць адшукаць новыя яго метады. На самым пачатку тыдня не рэкамендуецца дапускаць блізкіх распараджацца вашым заробкам. У пятніцу можна ўдала паказаць сябе на публіцы, зрабіць уражанне на сяброў.





Ленакс Льюіс накаўціраваў Тайсана, стаў чэмпіёнам свету і цяпер можа няспешна аглядаць памятныя мясціны Мемфісу ў прыемнай кампаніі.

ВЫХАВАННЕ

## Як памагчы дзяўчаткам стаць мудрымі

**Парады, якія дае бацькам вядомая амерыканская псіхолаг і пісьменніца Розалін Вайзман:**

1. Не думайце, што вашая дачка не можа быць агрэсіўнаю. Толькі цярпеннем бацькі могуць даць рады гэтай рысе характару.

2. Паверце вашай дачцэ, калі яна кажа, што стала ахвяраю агрэсіўных і ганарыстых сяброўак. Дапамажыце дачцэ стаць мацнейшаю за яе крыўдзіцеляў.

3. Ведайце, калі і як вы можаце ўмяшацца ў сітуацыю. Калі вашая дачка задзіра ці, наадварот, ахвяра агрэсіі, вам цяжка ўстаяць перад тым, каб не пагутарыць з іншымі бацькамі. Аднак пасля 10 гадоў дзяўчаткі часцей стараюцца самі вырашаць падобныя праблемы. Бацькі агрэсіўных дзяўчатак павінны паказаць, што існуюць і іншыя спосабы, каб будаваць адносіны ў калектыве і адстойваць уласны аўтарытэт. Бацькі ахвяраў павінны вучыць дзяўчатак «трымаць удар».

4. Не жывіце асобна ад дачкі. Паспрабуйце паглядзець на свет яе вачыма. І ніколі не ігнаруйце яе пункт гледжання.

5. Разрозніваеце дрэннае і добрае. Не забывайце простую мудрасць: вы заўсёды любілі сваю дачку і будзеце любіць, але можаце далёка не заўсёды ўхваляць яе ўчынкі.

6. Будзьце прыкладам. Памятайце: вы робіце вялізны ўплыў на дачку. Яна назірае за ўсім, што вы робіце.

7. Гаварыце з дачкою пра секс. Выкарыстоўвайце, каб пагутарыць на гэтую тэму, напрыклад, адпаведныя тэлеперадачы. Ваш уплыў у гэтай найскладанейшай сферы можа дапамагчы дачцэ пазбегнуць мноства праблемаў.

# «Хто кіруе нашым жыццём?»

## *Стывен Спілберг апавядае пра свой новы фільм у інтэрв'ю італьянскай газеце*

**1 чэрвеня на экраны ЗША выйшаў доўгачаканы фільм «Асобная думка» (*Minority Report*) – фантастычны трылер Стывена Спілберга з Томам Крузам у галоўнай ролі. Фільм зняты па матывах апавядання Філіпа К. Дзіка.**

Сюжэт гэтага фільма наступны: 2054 год, ужо на працягу шасці гадоў у Вашынгтоне няма злачыннасці дзякуючы асобнаму аддзелу паліцыі *Pre-Crime*, які ўзначальвае Джон Андэртан (у гэтай ролі выступае Том Круз). Праца аддзелу грунтуецца на трох маладых празарліўцах, якія прадказваюць «патэнцыяльных» злачынцаў яшчэ да таго, як тыя здзяйсняюць задуманае. Сістэма здаецца застрахаванай ад памылак, пакуль Андэртан не даведваецца, што празарліўцы называюць будучым злачынцам яго. І вось паліцэйскаму даводзіцца ратавацца ўцёкамі ў цалкам празрыстым свеце, у якім кожны жыве нібыта «за шклом». Адзіная магчымасць уратавацца – у «асобнай думцы» аднаго з трох празарліўцаў, чыё прадказанне адрозніваецца ад двух астатніх.

«У апавяданні Ф. Дзіка мяне прывабіла сутыкненне дзвюх канцэпцыяў, – апавядае Спілберг, – ці мы самі ствараем сваё жыццё, ці толькі падпарадкоўваемся наканаванаму нам лёсу і нічога не здатныя змяніць? Я лічу за лепшае думаць, што сапраўдная ўсё ж першая гіпотэза.

**– «Асобная думка» – гэта фантастыка, але дзеянне адбываецца практычна ў наш час. Чаму?**

– Тэхналогія, паказаная ў фільме, больш дасканалая, чым наша, але праблемы вельмі сучасныя. «Асобная думка» была б фантастыкай яшчэ год назад, але нечакана яе жанр амаль змяніўся. Сёння мы можам назіраць, як ФБР і ЦРУ атрымалі вялізную ўладу, бо мы знаходзімся ў стане вайны. Спецслужбы разам з Міністэрствам юстыцыі атрымалі права зазіраць у наша прыватнае жыццё, у нашы цэрквы, сінагогі, школы. Яны шпіёняць за намі і вырашаюць, хто з нас пагражае нацыянальнай бяспецы, а хто не. Мяне пужае думка, што нехта можа няспынна за мной назіраць і што людзі, якія не зрабілі ніякага злачынства, могуць трапіць пад следства.

**– Вас характарызуюць дзве існасці: мастака і бізнесмена, які імкнецца да камерцыйнага поспеху. Як яны сумяшчаюцца ў адной асобе?**

– Мае стужкі мелі такі поспех, што мне хопіць яшчэ на тры жыцці, і я адмовіўся займацца фільмамі пра Гары Потэра і Чалавека-Павука, якія абяцаюць фенаменальны прыбытак. Гэты тып кінематографу больш не выклікае ў мяне цікавасці. Сёння я раблю фільмы, якія здольныя падтрымліваць у мяне цікавасць на працягу двух гадоў жыцця. Гэта фільмы «Асобная думка» і «Злаві мяне, калі здолееш» з Леанарда Ды Капрыю і Томам Хэнксам, які я толькі што скончыў здымаць. Я адчуваю ад іх задавальненне, і мне ўсё роўна, будуць яны канкурэнтамі найбольш пасяховым фільмам, якія выйшлі апошнім часам, ці не будуць.

**– Вашы фільмы ахопліваюць шмат жанраў – фантастыка, гісторыя, прыгоды. Які жанр вам яшчэ хацелася б засвоіць?**

– Вось ужо дваццаць гадоў я мару стварыць мюзікл, але не ў стылі «Мулен Руж», хоць я з вялікай



павагай стаўлюся да гэтага фільма, а менавіта мюзікл старога ўзору, як, напрыклад, мае любімыя «Вестсайдская гісторыя» ці «Хлопцы і лялькі», дзе герой гаворыць толькі некалькі словаў і пачынае спяваць. А яшчэ я планую стварыць фільм пра Абрахама Лінкальна і грамадзянскую вайну ў Амерыцы. Некаторыя фільмы мне хацелася б здымаць самому, з іншымі я абмежаваўся б толькі прадзюсерствам, але я да апошняга моманту не ведаю, якім будзе маё рашэнне. Напрыклад, здымаць «Злаві мяне, калі здолееш» я вырашыў нечакана. Я меркаваў быць толькі прадзюсерам фільма, але аднойчы пры сустрэчы з сябрамі зразумеў, што павінен яго зрабіць сам.

**La Repubblica**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА
Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54
Адрас для пошты: 220123, г.Мінск, а/с 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук, г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1.

Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ № 1157
Нумар падпісаны ў друк 13/06/2002 (12:00) Тираж – 6.830